



*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 597 Люты, 2013 г.
Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Гэты лютаўскі нумар выходзіць напярэдадні нашага вялікага нацыянальнага сьвята - Дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. І пачынаем мы яго са сьвяточнага прывітаньня Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп-ні Івонкі Сурвіллы. Беларусы па цэлым сьвеце рыхтуюцца годна адзначыць 95-я юбілейныя ўгодкі БНР. Будзем сьвяткаваць і мы ў Амэрыцы, прапануем вам тэкст запросінаў на Сьвята ў Нью-Ёрку.

На другое месца па значнасьці мы вынесьлі інфармацыю, якую атрымалі з Бацькаўшчыны, з заклікам сабрацца на чарговы, шосты па ліку, зьезд беларусаў сьвету. Сёлетні год асаблівы – у ліпені споўніцца 20 гадоў ад таго часу, калі ў Менску адбыўся Першы зьезд беларусаў сьвету. Тады ўпершыню пасьля амаль поўстагодзьдзя ізаляцыі прыехалі на сустрэчу з роднай зямлёю паваенныя эміґранты з заходніх краінаў, колькі было сьлёз радасьці, размоваў, доўгачаканых спатканьняў і глыбокіх уражаньняў. Заля Опэрнага тэатра на паўтары тысячы месцаў была перапоўненая. Прыехала і новая эміграцыя як з Захаду, так і з Усходу. Гэта быў вялікі Сход беларусаў, які заклаў падмурак еднасьці нацыі, якая цяпер жыве ня толькі ў сваіх адміністрацыйных межах, але ў цэлым сусьвеце. З таго часу беларускія эміґранты з розных краін пачуваюцца часткаю ўсёй сусьветнай беларускай супольнасьці. Гэта супольнасьць жыве сваім жыцьцём – людзі трымаюць кантакты між сабою, абменьваюцца інфармацыяй і візытамі, трымаюць рознабаковыя сувязі з Беларусьсю, і дыктатарская ўлада ня мае тут сваёй моцы.

Ідэю аб’яднаньня беларусаў сьвету падала грамадзкая арганізацыя Згуртаваньне “Бацькаўшчына” на пачатку 90-х гадоў і здолела давесьці яе да практычнай рэалізацыі. Да гэтага часу Згуртаваньне правяло ўжо 5 сусьветных беларускіх форумаў ва ўмовах неспрыяльнага стаўленьня уладаў, праз перашкоды і забароны. Сёньня ЗБС “Бацькаўшчына” заклікае нас працягнуць справу яднаньня, сабрацца разам, каб абмеркаваць надзённыя праблемы, пагаварыць пра будучыню.

Рэдакцыя выказвае самую шчырую падзяку тым нашым прыхільнікам, хто з пачаткам новага году паклапаціўся пра фінансавае забесьпячэньне газэты і даслаў нам свае ахвяраваньні.

Як заўсёды, просім дасылаць нам новыя матэрыялы для публікацыі на самыя розныя тэмы. Да наступнай сустрэчы.

*Рэдакцыя*

# Да 95-х угодкаў абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

## Сьвяточнае прывітаньне Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы




Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, угодкамі таго слаўнага 25 Сакавіка 1918 году, калі наш народ абвесьціў незалежнасьць сваёй дзяржавы. У той памятны год мы афіцыйна перасталі быць абарыгенамі Паўночна-Заходняга Краю Расейскай Імпэрыі ды сказалі сьвету, што мы – і толькі мы – маем права гаспадарыць на нашай – спрадвечна нашай – зямлі.

Заняло, праўда, яшчэ больш за 70 гадоў цяжкога змаганьня, пакуль Беларусь сталася сувэрэннай Рэспублікай. Але сёньня, нягледзячы на здраднікаў, якія перахапілі ўладу, ня гледзячы на змушанае маўчаньне, Беларусь жыве - жыве ў супраціве гвалту над свабодай, над правамі чалавека і нацыі.

Так, як мы калісь з году ў год пацяшалі сябе, што ніводная імпэрыя ня вечная і што «загляне сонца і ў наша ваконца», сёньня мы таксама ведаем, што дні ўзурпатара палічаныя і ні яму, ні ягоным спонсарам ня ўдасца ўжо сьцерці Беларусь з карты сьвету.

Беларусы – народ цярплівы. Мы цэнім жыцьцё, але мы не рабы. Няхай дыктатар ня думае, што памяркоўнасьці і цярплівасьці беларусаў няма канца.

Наш народ ня раз выходзіў «шчыльнымі радамі» бараніць сваю зямлю. З Божай дапамогай ён і гэтым разам абароніць жыцьцё Рэспублікі сваёй!

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

# Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” склікае беларусаў на Шосты зьезд беларусаў сьвету

Зьезды беларусаў сьвету - значная падзея для беларусаў метраполіі і замежжа, яны закліканыя спрыяць яднаньню нацыі, умацаваньню сувязяў паміж беларусамі з розных краінаў, а таксама дапамагаць у вырашэньні агульных праблемаў.

МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ладзіць зьезды беларусаў сьвету раз на чатыры гады пачынаючы з 1993 года. Тады, на Першым зьезьдзе, сабралася больш за тысячу чалавек - дэлегатаў зь беларускіх асяродкаў замежжа і Беларусі. У першы раз Беларусь з набыццём незалежнасьці так знакава на дзяржаўным і грамадзкім узроўнях вітала сваю дыяспару. Сёлета - 20 гадоў той значнай падзеі, і гэта выдатная падстава, каб ацаніць здабыткі і страты апошніх гадоў, прааналізаваць гісторыю і сучаснасьць беларускага замежжа, асэнсаваць гэты фэномен. Мяркуецца, што сёлетняя сустрэча зьбярэ больш за 300 дэлегатаў з дваццаці краін сьвету.

Паводле рашэньня Малой Рады МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”, Шосты зьезд беларусаў сьвету мае адбыцца 23-24 ліпеня ў Менску на тэму “Беларуская нацыя ва ўмовах глябалізацыі: выклікі і магчымасьці”.

Абраная тэма зьезду абумоўлена аб’ектыўнымі працэсамі, якія адбываюцца ў сучасным сьвеце, калі назіраецца ўзмацненьне глябалізацыі, калі ўзаемазалежнасьць і ўзаемныя

*Заканчэньне на 2-й бачыне*



## ЗША ўвялі новыя эканамічныя санкцыі

ЗША ўвялі новыя санкцыі супраць шэрагу юрыдычных і фізічных асобаў у Беларусі, Кітаі, Венэсуэле, Іране, Сірыі і Судане. Фігурантам сьпісу інкрымінуецца парушэньне пунктаў амэрыканскага закона аб нераспаўсюджваньні зброі масавага зьнішчэньня ў дачыненьні да Ірана, Паўночнай Карэі і Сірыі. Як паведаміў дзяржДэпартамэнт ЗША, санкцыі ўжываюцца ў дачыненьні да дзьвюх арганізацый зь Беларусі - кампаніі «ТМ Сэрвісіз» (TMS) і кіраўнічай кампаніі холдынгу радыёлакацыйных сістэм (КБ «Радар») ды іх дачыных кампаній.

На практыцы ўведзеныя санкцыі азначаюць, што ўраду ЗША забаронена ўкладаць кантракты з мэтай набыцьця тавараў, паслуг і тэхналёгій у занесеных у «чорны спіс» юрыдычных і фізычных асоб, спрыяць ім. Акрамя таго, гэтыя юрыдычныя і фізічныя асобы ня могуць з гэтага часу набываць у ЗША зброю і вайсковую тэхніку, паслугі для іх абслугоўваньня ды іншыя тавары, продаж якіх за мяжу рэгулюецца амэрыканскімі правіламі экспартнага кантролю.

Пастанова пра санкцыі была прынятая 20 сьнежня мінулага года. У дзеяньне яна ўвайшла 5 лютага. Тэрмін дзеяньня санкцый - два гады. Датэрмінова яны могуць быць скасаваныя на пастанову дзяржсакратара ЗША.

## Эўропа і ЗША створаць “эканамічнае” НАТА

У Эўропе і ЗША практычна адначасна паведамілі пра глябальны эканамічны праект. Ён павінен быць рэалізаваны да канца 2014 году ў выглядзе трансатлянтычнай зоны свабоднага гандлю (TAFTA — Transatlantic Free Trade Area). Пра тое, як пасьпешліва патэнцыйныя ўдзельнікі праекту ўзяліся за ягонае ажыцьцяўленьне, сьведчыць той факт, што ўжо ў сакавіку прадстаўнікі Эўразьвязу гатовыя перадаць амэрыканскаму боку інфармацыю пра сваю пазыцыю на перамовах, якія пачнуцца не пазьней канца чэрвеня сёлета.

Ва ўмовах, калі эканоміка Эўразьвязу знаходзіцца ў стане стагнацыі, а вытворцы ЗША шукаюць новыя рынкі збыту, варта толькі зьдзіўляцца , чаму такая ідэя не была рэалізавана раней. Зараз у яе падтрымку выступаюць прадстаўнікі буйнейшых і найбольш уплывовых лабісцкіх груп па абодва бакі Анлянтыкі.

## Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” склікае беларусаў на Шосты зьезд беларусаў сьвету



Заканчэньне з 1-й бачыны

ўплывы розных культур нараджаюць новы выгляд сьвету, новы сьветапогляд ягоных жыхароў і новыя магчымасьці. У гэты час, калі міграцыйныя працэсы робяцца ўсё больш актыўнымі, значна павялічваецца значэньне нацыянальных дыяспараў.

У той жа час, у новых умовах беларускія дыяспары сутыкаюцца і з праблемамі размываньня нацыянальнай ідэнтычнасьці, касмапалітызму значнай часткі новых эмігрантаў, зьмяншэньня цікавасьці да нацыянальнай дзейнасьці сярод моладзі, а таксама з пытаньнем адэкватнага вызначэньня далёкасяжных мэтаў існаваньня беларускіх арганізацыяў.

Гэтыя і іншыя праблемы, таксама як і новыя формы актыўнасьці асяродкаў, іх сувязяў з метраполіяй вартыя адмысловага асэнсаваньня і абмеркаваньня на грамадзкім і дзяржаўным узроўнях.

У межах зьезду прадугледжана праца трох секцый:

1. Магчымасьці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаваньні нацыянальнай ідэнтычнасьці.
2. “Новая” і “старая” іміграцыі: супраца на карысьць нацыянальнага разьвіцьця.
3. Культурная спадчына беларускага замежжа.

На згаданым пасяджэньні Малой Рады 21 лютага абраны Арганізацыйны камітэт па правядзеньні зьезда і працоўная група па яго падрыхтоўцы.

Сустаршынямі арганізацыйнага камітэту па падрыхтоўцы зьезду абраныя:

- Радзім Гарэцкі (Беларусь),
- Алена Макоўская (Беларусь),
- Хведар Нюнька (Літва),
- Алег Рудакоў (Расія),
- Ніна Шыдлоўская (Беларусь).

Створана Рабочая група па падрыхтоўцы зьезду, якую ачоліла Ніна Шыдлоўская.

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

*сайт ЗБС "Бацькаўшчына ў інтэрнэце: www.zbsb.org*

## Угодкі Кастуся Каліноўскага ў Нью-Ёрку





У нядзелю 3 лютага Бруклінскі аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ладзіў імпрэзу, прысьвечаную 150-й гадавіне паўстаньня Каліноўскага і 175-м угодкам ад дня ягонага нараджэньня. Пра адметнасьць гераічнай постаці Каліноўскага і ягоную ролю ў паўстаньні 1863 году зрабіў выступ сп. Зянон Пазьняк. Ён падкрэсьліў, што абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе сталася вынікам той барацьбы за волю беларускага народу, якую распачаў 150 гадоў таму слаўны сын беларускай зямлі Кастусь Каліноўскі.

Прысутныя падтрымалі ініцыятыву правядзеньня агульнанацыянальнай дыктоўкі, і ўсе з хваляваньнем занатоўвалі апошнія словы Каліноўскага да свайго народу, якія ён напісаў у сваім “Лісьце з-пад шыбеніцы”.

*Ганна Сурмач*



# Беларускае пытаньне на сэсіі ААН



Гары Паганяйла

*Эўразьвяз прапаноўвае разгледзець на чэрвеньскай сэсіі Рады ААН па правах чалавека становішча з правамі чалавека ў Беларусі.*

У адмысловай пастанове Рады Эўразьвязу, прынятай 18 лютага ў сувязі з падрыхтоўкаю рэгулярнай сэсіі Рады ААН гаворыцца: "Адным з галоўных прыярытэтаў Эўразьвязу ў пэрспэктыве сэсіі Рады ААН па правах чалавека, якая адбудзецца ў чэрвені, будзе сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі, якая працягвае выклікаць гарачую занепакоенасьць".

Праваабаронца, сябра Хельсынскага камітэту Беларусі Гары Паганяйла гэтак пракамэнтаваў зьвесткі з Брусэлю: "Сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі сапраўды пагаршаецца, прычым парушэньні носяць сыстэмны характар. Не выконваецца маса рэзалюцый ААН, Камітэту па правах чалавека ААН, якія накіраваныя на выпраўленне сытуацыі з правамі чалавека ў краіне. Па сутнасьці ніводнае з рашэньняў Камітэту па правах чалавека, які разглядаў індывідуальныя скаргі грамадзянаў Беларусі і прызнаў адказнасьць беларускай дзяржавы, ёю не прызнаюцца і не выконваюцца. Натуральна, што такія безадказныя паводзіны ў ААН не пакідаюць без ўвагі, сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пад кантролем у ААН. Не выключаю, што ў чэрвені прагучыць справаздача спэцдакладчыка, які раней быў прызначаны ААН. І паводле гэтай справаздачы будзе прынятае адпаведнае рашэньне па Беларусі".

З 1993 году, калі Беларусь ратыфікавала адпаведнае міжнароднае пагадненьне, у камітэце ААН было разгледжана 22 скаргі зь Беларусі. «Ні па воднай з скаргаў пры станоўчым рашэньні няма адпаведнага рашэньня ў Беларусі аб аднаўленьні парушанага права грамадзяніна", — зауважае Гары Паганяйла.

Паводле зьвестак праваабаронцы, цяпер у Камітэце па правах чалавека ААН чакаюць сваёй чаргі для разгляду яшчэ каля ста скаргаў зь Беларусі.

# У Празе адбыўся сход беларускіх аб'яднаньняў Эўропы




Дзесяць беларускіх арганізацыяў з Польшчы, Чэхіі, Эстоніі, Бэльгіі, Швайцарыі, Літвы сабраліся 20 лютага ў Празе, каб скаардынаваць сваю дзейнасьць.

Удзел у Сходзе беларускіх аб'яднаньняў Эўропы бралі дзесяць арганізацыяў з розных эўрапейскіх краінаў: Беларускі дом у Варшаве, «Грамадзянская Беларусь» (Чэхія), «Чалавек у нядолі» (Чэхія), «Пагоня» (Прага), «Дом аб'яднанай Беларусі» (Вільня), «Трэці Шлях» (Эстонія), Асацыяцыя беларусаў Швайцарыі, «Офіс беларускай палітычнай эміграцыі» (Антвэрпэн), «Наш Дом», Суполка імя Францішка Скарыны (Прага).

Арганізатарам выступіла «Асацыяцыя за мадэрнізацыю» (Прага).

Акрамя іншага ўдзельнікі сустрэчы дамовіліся зьвярнуцца да міністэрстваў замежных справаў краінаў Эўразьвязу з прапановай скасаваць плату і спрасьціць працэдуру атрыманьня шэнгенскіх візаў для ўсіх катэгорыяў грамадзянаў Беларусі.

Таксама было вырашана стварыць адзіны агульны сайт для беларускіх арганізацыяў Эўропы. З канкрэтных ініцыятываў дамовіліся зладзіць пікеты ля офісаў спонсараў Міжнароднай фэдэрацыі хакею, правесьці летнік з вывучэньнем беларускай мовы, падрыхтаваць да 26 красавіка выставу фотаздымкаў, прысьвечаных чарнобыльскай катастрофе.

# Паштоўкі падзякі




Жыццё наша - нялёгкая справа. Бяжыць хуткай ракой, і ты, то ў лодцы і з вёсламі, то за бортам, з апошніх сіл змагаешся, каб не патануць. То ты ў гэтай самай лодцы, а яна пачынае цячы, і вады ўсе больш і больш…Усё гэта кніжныя алегорыі, але калі ў пэўныя моманты жыцьця спынішся на хвілінку, каб азірнуцца і паглядзець на перажытае, то разумеш, колькі праўды ў гэтых самых алегорыях.

2013 год на дварэ. Новая эра. У Амэрыцы месяц памяці Марціна Лютара Кінга і ўсёй гісторыі змаганьня афра-амерыканцаў за сваю роўнасьць. Які доўгі шлях яны прайшлі ад Розы Паркс да другой інаўгурацыі прэзыдэнта Барака Абамы. Я нават калекцыйны нумар часопіса набыла. Чытаю, і аж дух захапляе.

А зусім нядаўна ў нашым грамадзкім цэнтры БАЗА сьвяткавалі 150 год з дня нараджэння нашага славутага "Лютара Кінга"- Кастуся Каліноўскага. Слухалі неверагодна цікавы даклад Зянона Пазняка, пісалі пад дыктоўку знакамітыя "Лісты з-пад шыбеніцы"… Пісалі гэтыя словы, і ў паветры, у сэрцах і душах адчувалася іх праўда і магутная сіла. А па дарозе дамоў ужо ў стаўшую роднай Філядэльфію на мяне навалііліся цяжкія думкі…

2013 год…больш за два гады прайшло ад падзеяў 19 студзеня 2010 года. А ў турмах да гэтага часу пакутуюць адныя з лепшых грамадзянаў нашай Беларусі. І кожны зь іх ужо даўно мог быць свабодным, калі б падпісаў пэўны ліст і адмовіўся ад сваіх словаў і дзеяньняў. Але яны не зрабілі гэтага, не пайшлі на паклон да злачынных уладаў. І гэтым самым даказалі ўсім, што гэта былі не палітычныя гульні, а вера. Сапраўдная вера, праўда і любоў да Беларусі! І што чалавека можна пазбавіць яго фізычнай свабоды, але свабоды думкі і веры ніколі нельга! І яны - яшчэ адзін доказ гэтаму, яны - ужо нашыя героі, таму што ня здрадзілі, не збаяліся і пайшлі да канца! Гэта Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Зьміцер Дашкевіч, Мікалай Аўтуховіч і многія, многія іншыя.

А мы эмігранты на чужыне. Ня шмат можам на адлегласці. Але, што заўсёды могуць даць людзі адзін аднаму і што часам больш за ўсё патрэбна - гэта падтрымка! Колькі раз у жыцьці бывае так, што зрабіўшы нешта, нават, калі ты ў гэта верыш і рабіў ад чыстага сэрца, ты вымушаны сумнявацца ў праўдзе і правільнасці ўсяго зробленага. І як патрэбна ў гэтую самую хвіліну пачуць простае: "Дзякуй за гэта! Гэта было моцна! Гэта натхніла, падштурхнула мене на тое і тое".

І вось такі самы дзякуй мы і выказалі ўсім палітвязьням у Беларусі. З розных куткоў Амэрыкі ім былі дасланыя паштоўкі з простымі, але духоўнымі словамі падзякі і падтрымкі. Мы, беларусы з Філядэльфіі, зрабілі тое ж самае. З усіх адпраўленых паштовак толькі адна вярнулася назад. Можа, адрас у нас на пошце не разабралі, а можа забаранілі…

Я вельмі спадзяюся і веру, што нашыя паштоўкі дайшлі да адрасатаў, данесьлі ім нашыя цёплыя прывітаньні, нашу цьвёрдую падтрымку і ўдзячнасьць, нашу веру ў іх хуткае вызваленьне і ў лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны.

*Алена Літоўка*
*Філядэльфія*

# Глянуць на ўзроўні штодзённасьці

## *Дарожныя нататкі з наведваньня Бацькаўшчыны*



Калі працяглы час чытаеш навіны зь Беларусі толькі ў інтэрнэце, пачынаеш уяўляць тамтэйшае жыцьцё па-свойму, не зусім так, як яно бачыцца зь Менску ці Баранавічаў, напрыклад. Тлумачэньне простае: рэпартэры ды аналітыкі выбіраюць падзеі больш значныя для ўсяго грамадзтва або нешта сэнсацыйнае. Штодзённае ж людзкое жыцьцё найчасьцей застаецца па-за ўвагай. А вось калі сам прыедзеш у Беларусь, то апынаешся якраз сярод гэтага будзённага побыту, і ўласныя назіраньні ды развагі даюць штосьці вельмі істотнае для разуменьня таго, што дзеецца на Бацькаўшчыне. Мінулае лета я правяла ў Беларусі… Вядома, мае нататкі суб'ектыўныя й фрагмэнтарныя, але, спадзяюся, хтосьці з чытачоў захоча іх дапоўніць або прадыскутаваць.

### Яблыкі ўрадзілі

Не прыпамінаю такога шчодрага яблычнага ўраджаю. Па ўсім Менску ў гэтак званым прыватным сэктары ды ў мікрараёнах, дзе былі зьнесеныя прыватныя дамы, а рэшткі садоў засталіся, абцяжараныя галіны гнуліся долу. А калі пачалі падаць яблыкі, то пад кожным дрэвам як бы дыванок ляжаў, шмат іх падала-разьбівалася на тратуарах. Ніхто не кідаўся падбіраць. І мне гэта было дзіўна, бо яшчэ ня сьцерліся ў памяці малюнкі савецкай рэчаіснасьці, калі нават у вёсках ды мястэчках дзеці душыліся за тымі яблыкамі, елі недасьпелыя, і матлашыць чужы сад лічылася ледзь не геройствам у хлапечым асяродзьдзі. Дый садоў тады было вобмаль, бо колішнія або вымерзьлі лютай зімой 1940 году, або былі высечаныя самімі гаспадарамі з прычыны высокіх падаткаў. Памятаю, як аднойчы дзед прыслаў нам пасылку з сушанымі яблыкамі, і якія то былі неймаверныя прысмакі! Восеньню мы штогод хадзілі з бацькам у лес зьбіраць грушы-дзічкі. Кампот (узвар) зь іх замяняў нам, дзецям, усе сёньняшнія сокі ды шыпучкі праз усю зіму, пакуль не ацеліцца кароўка. А тады можна было папіць малака. І ў маім ужо дарослым веку, калі бацькі-пэнсіянэры мелі добры сад з рознымі гатункамі яблыкаў ды іншай садавіны, не марнавалася нічога: і сьвежыя елі, і сушылі яблыкі, і варылі зь іх кампоты ды джэмы.

Выглядае, цяпер у большасьці людзей няма такой вострай патрэбы рыхтаваць уласныя прыпасы на зіму. Можна ўсё купіць у краме гатовае. Асабліва, калі твой сад апынуўся пры дарозе або ля шумнай менскай вуліцы, дзе бясконца едуць машыны й тыя яблыкі набіраюць, пэўна, нейкіх шкодных для здароўя рэчываў. Натуральныя цывілізацыйныя зьмены? Але радасьці не адчуваю. Еду тралейбусам па вуліцы Ангарскай, пазіраю на выстаўленыя сьмецьцевыя скрынкі, поўныя яблыкаў… І тут на чарговым прыпынку заходзіць маленькая сухая жанчынка пажылага веку зь вялікай торбай крамяных шафранаў. Частуе кандуктарку яблыкам і пачынае запрашаць яе прыехаць купіць у яе тых яблыкаў. Кажа, што вось гэтую торбачку яна вязе сваёй сястры. Жанчына называе сваё імя ды прозьвішча (двойчы паўтарае, ня згадваючы пры гэтым ніякага "отчества"), дыктуе кандуктарцы адрас (тая, хрумкаючы яблык, запісвае) і ўдакладняе: "Дзёшава аддам, абы не прапала, бо надта ж урадзіла". А мы з унучкай, зьбіраючыся ў заапарк, набіраем сабе пад бліжэйшай нічыйнай яблыняй поўную торбу. Вярблюды й дзікі раскашавалі!

Між іншага, на рынку і ў крамах гэтага беларускага яблычнага багацьця бракавала. Не, яблыкаў было поўна, пераважалі аднак імпартныя. Польскія, мусіць, у найбольшай колькасьці. "Замежнікі" выйгравалі стандартам, упакоўкай, стабільнай прысутнасьцю. А тут – сэзонная зьява, стыхія, ніхто надта ня рупіўся й ня быў гатовы яе належна прыняць і скарыстаць. Так і засталося ў памяці: захапленьне ўбачаным беларускім яблычным хараством і багацьцем ды адначасная горыч ад змарнаванасьці прыроднага дару.

### Фасадная чысьціня

"У Менску чыстыя вуліцы" – колькі разоў падобныя словы давялося чуць і чытаць! Так, на цэнтральных вуліцах і плошчах падмецена й прыбрана. Больш за тое, чыста і ўздоўж магістральных шляхоў. Трава пакошаная, ніякага ламачча ды нават сухастоінаў уздоўж дарогі не пабачыш. Палі ўзараныя ды засеяныя. Прыемна глядзець з акна аўтобуса! І лепш не спыняцца… Бо рэдка якая прыдарожная кавярня дасьць вам прыемнасьць цывілізаванага побыту. Хоць трапляюцца ўжо й вельмі гасьцінныя ды, як бы гэта далікатна назваць, правільныя ў сэнсе санітарыі й гігіены.

Вандруючы па краіне, займаючыся сваімі менскімі справамі, сустракаючыся з роднымі й сябрамі, я міжволі ўвесь час параўноўвала ўбачанае/пачутае з тым, што й як было ў гэтым самым месцы ў савецкі час, і адначасна, як бы паралельна, з тым, як падобная жыцьцёвая сытуацыя выглядае ў Злучаных Штатах. Даволі часта лаканічная высновa была: дзень і ноч! Значыць, ад савецкай рэчаіснасьці ў многім людзі ўжо далёка адыйшлі, маладым нават сьмешна робіцца, калі пра штосьці такое спытаеш. Але й да заходняй (хацелася б – незалежнай беларускай!) мэнтальнасьці яшчэ крочыць ды крочыць.

Працуе шмат крамаў – самых розных паводле памеру, асартымэнту, спэцыялізацыі, цэнаў. На ўскраінах Менску ўзьведзеныя вялікія гандлёвыя комплексы, куды людзі едуць на сваёй машыне, каб затаварыцца напоўніцу. Такое нармальна для Захаду, але тут яшчэ не для ўсіх. Машыны, часам патрыманыя й пераважна заходняй вытворчасьці ("інамаркі", як іх агулам называюць, тым самым залічваючы расейскія "жыгулі" да сваіх, хоць яны такія самыя "замежнікі"), запаланілі вуліцы й двары. Будавалася ж усё некалі бяз думкі пра масавую аўтамабілізацыю, дык праблемаў паўстала шмат. Няма гаражоў, няма аўтастаянак ля дамоў, няма парковак у цэнтры гораду… Круглы год машыны начуюць пад адкрытым небам, нахабна займаюць дзіцячыя ды спартовыя пляцоўкі, пляжаць газоны. А ўлады ў адказ на скаргі "безмашынных" жыхароў час ад часу праводзяць міліцэйскія рэйды, штрафуючы парушальнікаў. І потым зноў усё плыве, як плыло.

Аўтазапраўкі паўсталі ля гарадзкіх скрыжаваньняў, пры магістральных дарогах так натуральна, быццам яны былі там адвеку. І апавед пра тое, як у пачатку 1990-х я мусіла прасіць дапамогі ў дэпутатаў Вярхоўнага Савету, каб запрaвіць машыну, бо трэба было ехаць сустрэць у аэрапорце амэрыканскіх гасьцей, сёньня ўспрымаецца маладымі людзьмі зь вялікім недаверам. Як і ўсе іншыя рэаліі таго часу: талоны, доўгія чэргі, пустыя паліцы ў крамах… Сёньня актуальнае толькі пытаньне кошту тавару. І калі я спрабавала пералічыць цану (рублі – даляры, кіляграмы – фунты) ды параўнаць з адпаведнай амэрыканскай, то вялікай розьніцы ня бачыла. Але, калі браць да ўвагі кошт прадуктаў і сярэднюю беларускую пэнсію, то вочы міжволі робяцца квадратнымі. Для гэтай сацыяльнай групы даступны, практычна, толькі вузкі спэктар "сацыяльна арыентаваных тавараў". Вось таму й кінуліся мае старэйшыя знаёмыя масава на свае лецішчы ці ў вёскі саджаць бульбу й гуркі. Або асталяваліся там жыць, каб сталічную кватэру здаваць у арэнду – мець даробак да нішчымніцы. Купіць кніжку або схадзіць у тэатар для іх ужо завялікая раскоша.

Амаль штодня завітвала я ў краму блізка ля сваёй хаты: шырокі выбар прадуктаў (розных тваражкоў столькі, што ў Амэрыцы могуць пазайздросьціць), даволі ветлівая абслуга, чэргі ля касаў невялікія, бо касаў шмат. І ля некалькіх зь іх у першыя ж дні наведваньня ўбачыла акуратныя надпісы, якія паведамлялі, што стужка-транспарцёр не працуе, выбачайце. Што ж, бывае, падумалася мне. Пасунула свае пакункі рукамі да касіркі. Заўтра, відаць, наладзяць. Але з гэтым спадзяваньнем так і прахадзіла ўсё лета. Ці зрабілі што цяпер? Ня ведаю. А крама гэтая прыватная.

У Менску й ваколіцах ідзе даволі інтэнсыўнае будаўніцтва. Беларуская сталіца рыхтуецца да хакейнага чэмпіянату сьвету, дык наводзіць хараство найперш у цэнтры: абнаўляюць фасады старых дамоў, іх

чысьцяць ды фарбуюць, адчыняюцца новыя крамкі й кавярні, пліткавы брук ад цэнтру гораду разыходзіцца ўсё далей да ўскраін. І гэта цешыць, пакуль не зьвяртаеш увагі на якасьць працы. Ідзеш па вуліцы дзе-небудзь у цэнтры й адчуваеш: Менск сапраўды стары горад! Бо брук месцамі прагнуўся, пасьля дажджу на ім лужы зьбіраюцца, ёсьць пабітыя-пашчапаныя пліты. Быццам яны сто ці больш гадоў тут ляжаць. А мошчаныя плошча ці ходнікі ўсяго два-тры гады назад.
Вось малады гаспадар паказвае мне сваю навабудоўлю. Пытаю: "Чаму на бэтонных перакрыцьцях усюды нейкія адбітыя краі? Заводзкі брак ці будаўнікі неакуратна працавалі?" "Ды не, – спакойна кажа гаспадар, – усе адбіваюць самі, бо інакш кран пліту падчапіць ня можа. Заштукатурым…" "А чаму ж тады пры вытворчасьці плітаў не прадугледзелі нейкія зачэпкі для крану, каб ня змушаныя былі людзі крышыць сваю новую рэч?" Субяседнік не зразумеў майго пытаньня…

У Савецкім Саюзе для замежных турыстаў былі дазволеныя толькі пэўныя маршруты, у асобныя гарады ці да памятных мясьцінаў. Цяпер такой жорсткай рэглямэнтацыі няма, але паказваць усё імкнуцца з акна аўтобуса, на пэўнай адлегласьці. Тады ўражаньне ўзьнікае вельмі добрае. І госьці нахвальваюць у Менску шырокі праспэкт, велічны сталінскі ампір, вялікі гандлёвы цэнтар пад шклянымі бурбалкамі на плошчы Незалежнасьці, рыштаваньні ў старым горадзе, кветнікі. А мяне не пакідала адчуваньне, што ўсё тут робіцца як бы напаказ. Ці ўтульна самім менчукам сярод гэтага жыць? У выхадныя дні цэнтар гораду пусты й ціхі. Гарадзкія ўлады спрабуюць стварыць "пешаходную вуліцу" на Карла Маркса. Дай Бог!

## Дык напаказ ці для сябе?

Абмінуць у нататках навабуды ў цэнтры сталіцы не выпадае, хоць іх даволі часта абмяркоўваюць у інтэрнэце. У Верхнім горадзе з нуля паўсталі ратуша ды царква Сьвятога Духа (на яе падмурку ў савецкі час была піўная). Будынак царквы – гэта канцэртная заля, просьбы грэка-каталікоў вярнуць іх колішнюю сьвятыню былі праігнараваныя ўладамі. Добра выглядае й гатэль "Эўропа", хоць збудаваны ён зусім не на сваім "родным" месцы. А вось паркінгі й офісныя будынкі на Нямізе, гандлёвыя рады ля былых манастырскіх сьценаў ды ўвесь праваслаўны навучальны комплекс побач выклікаюць поўнае непрыманьне, бо глядзяцца нейкімі недарэчнымі дэкарацыямі. Так і здаецца, што зробленыя з кардону ды фанеры, каб выканаць функцыю часовай аздобы. Не была такой старая Няміга… Яе зруйнавалі на маёй памяці. (Толькі паводдаль, на вуліцы Ракаўскай крыху адчула дух тае даўніны.) А навабуды, падобна, робяцца абы было "красіва". І гэткае калгаснае ўяўленьне пра хараство гістарычнага цэнтру разбурае дарэшты тое, што зьбярог час і папярэднікі, таксама ня надта ласкавыя да нацыянальнай спадчыны.

Нейкая недарэчная Бабілёнская вежа ("зуб акулы") раптам вытыркнулася ў Траецкім прадмесьці. Вядома, цэнтар, прэстыж, грошы… Але няўжо няма разуменьня, што даўніна ў Менску й так мізэрная, у адну жменю сабраць можна, а эўрапейскі горад безь яе – як сірата бяз роду-племені. Няўжо будзем распавядаць сваім дзецям і гасьцям, што мы мелі Магдэбургскае права й тут была нашая матэрыялізаваная гісторыя, а цяпер стаіць толькі бігборд аднаго з нуварышаў?!

Дваістае ўражаньне пакінула рэканструкцыя Тэатру Янкі Купалы. Фасад выглядае добра: аднаўлены, абноўлены, сьвежа пафарбаваны. Але што прыстаўляюць да старых сьценаў? Здаецца, ні маштабам, ні стылем прыбудова не супадае з асноўным будынкам. Пакуль хадзіла вакол, прыглядалася, выплыла з памяці гісторыя, якую пачула калісьці ў Беластоку. Там на Ліпавай вуліцы ёсьць касьцёл… Дык вось, у той час, калі нашы землі трапілі пад уладу Расеі, у краі было забаронена ўзводзіць новыя касьцёлы. А беластоцкія вернікі ды ярархі якраз задумалі будаўніцтва. Каб абыйсьці забарону, падалі прашэньне ў Санкт-Пецярбург наконт прыбудовы да існуючага касьцёлу. І маючы добрых адвакатаў, дазвол атрымалі. Будзеце ў Беластоку, зьвярніце ўвагу: чырвоная грамадзіна – гэта й ёсьць тая прыбудова, а белы будыначак – самі разумееце, стары касьцёл. Трэба добра прыгледзецца, каб яго заўважыць. Толькі густ і талент тых дойлідаў, думаю, недасяжны для нашых сёньняшніх творцаў.

## "Зямля геніяў"

Такую назву мела аднадзённая экскурсія-вандроўка, арганізаваная актывістамі хрысьціянскай дэмакратыі, найперш Валерыяй Чарнаморцавай. Ліпеньскай раніцай больш як 50 асобаў (ад школьнікаў да пэнсіянэраў, людзі рознай ступені беларусізаванасьці ды хрысьціянізацыі) селі ў аўтобус ля галоўнага будынку Акадэміі навук. У ролі гіда выступаў Аляксей Фралоў, знаны музыка, ляўрэат міжнародных конкурсаў, адначасна – знаўца роднай гісторыі й эмацыйны яе выкладчык. Мы пакіраваліся на Гарадзеншчыну, каб прайсьціся сьцежкамі Ларысы Геніюш ды агледзець у наваколлі некаторыя помнікі архітэктуры – пераважна цэрквы ды касьцёлы. Хоць было вельмі горача (калі замаўляўся аўтобус, уласьнікі абяцалі, што ён будзе з кандыцыянэрам, аднак той не працаваў), уражаньні ад вандроўкі – незабыўныя.

Рэлігійнае жыцьцё пасьля дзесяцігодзьдзяў прымусовага атэізму паступова ўпарадкоўваецца, усялякія склады ды майстэрні выведзеныя з храмавых будынкаў. І ў правінцыі гэта, як мы бачылі, адбылося хутчэй і прасьцей, чым у Менску. Вядома, Заходняя Беларусь пазьней трапіла пад савецкую ўладу, людзі больш пільнаваліся сваіх традыцыяў. Дый руйнавалі камуністы ў першую чаргу ў гарадах, знакавыя культавыя будынкі, незалежна ад таго, чые яны былі – праваслаўныя, каталіцкія, юдэйскія.

Сярод шэдэўраў архітэктуры, што нам трапіліся, пераважалі касьцёлы. Захаванасьць інтэр'ераў проста падзіўляе! Мы бачылі цудоўныя ўзоры барока. Мармур, арганы… Шмат дзе ідуць нясьпешныя рэстаўрацыйна-рамонтныя работы. І ўсе храмы ўжо дзейныя! Паколькі наша вандроўка была арганізаваная хрысьціянскімі дэмакратамі, нам усюды адчынялі дзьверы. Бальшыня экскурсантаў упершыню ўбачыла музэйную экспазыцыю, прысьвечаную паэтцы й верніцы Ларысе Геніюш, зладжаную ў будынку зэльвенскай царквы Сьвятой Тройцы. Разам з фатаграфіямі, кнігамі, рукапісамі тут знаходзіцца й старое царкоўнае Эвангельле, на аздабленьне вокладкі якой Ларысе Антонаўне прыслала аксаміт з Амэрыкі беларуска Юзэфа Найдзюк. Нагадаю, што й помнік паэтцы, зроблены для Зэльвы, стаіць на царкоўным падворку, бо гарадзкія ўлады не далі дазволу паставіць яго на плошчы або ў сквэры.

Гэтая вандроўка дала магчымасьць наведаць вёскі й мястэчкі, што ляжаць паводдаль ад магістральных шляхоў. І было прыемна бачыць вынікі руплівай гаспадарлівасьці яе насельнікаў: дагледжаныя прысядзібныя ўчасткі, дзе розная гародніна суседнічала з кветкамі ды абавязкова былі яблыні, сьлівы, грушы. Дарэчы, кінулася ў вочы, што ў кожным паселішчы нейкія пэўныя кветкі дамінуюць, сустракаюцца ледзь не на кожным падворку, а іншыя – радзей або й зусім адзінкавыя. Ці гэта традыцыя, ці проста зьбег акалічнасьцяў? Кветнікі былі й пры ўсіх наведаных намі цэрквах ды касьцёлах.

Турыстычная эйфарыя зьнікла, як толькі мы пад'ехалі да мясьціны, дзе калісьці былі Жлобаўцы. Два гады назад, рыхтуючыся адзначаць 100-годзьдзе народзінаў слыннай Паэткі й вялікай Беларускі, тут шчыра папрацавалі яе прыхільнікі. Яны пачысьцілі тэрыторыю, высеклі дрэвы-самасейкі, паклалі камень з надпісам, што якраз тут быў дом, у якім нарадзілася Ларыса Геніюш. Цяпер выспачка сярод калгаснага поля была ўся зарослая пустазельлем, але, горш за тое, з "ласкі" мясцовых начальнікаў сёлета сьсечаныя ўсе дрэвы й бэз, што былі сьведкамі яе дзяцінства й рэдкіх візытаў у апошнія гады жыцьця. Вядома, бэз адрасьце… Адна вялізная ліпа яшчэ зьберагласся паводдаль, бліжэй да калгасных хлявоў. Прыгадалася адразу, як ля замку ў Гальшанах у савецкі час быў збудаваны сьвінарнік (пра гэта шмат пісаў Уладзімер Караткевіч), як, прыстасоўваючы цэрквы ды касьцёлы пад нейкія ўстановы (архіў ці дом кіно ў Менску, напрыклад) абавязкова туалет рабілі на месцы алтара… Ня зьнікла яшчэ тая барбарская завядзёнка на нашай зямлі, на жаль. Улады ўсё яшчэ помсьцяцца паэтцы за яе антысавецкасьць ды нязломную беларускасьць.

Але мы прыйшлі ёй пакланіцца. Таму з ганку яе былога дому прамаўлялі ды чыталі вершы, Тацьцяна Беланогая засьпявала пад гітару, потым пачалі фатаграфавацца… На зваротным шляху ў Менск у аўтобусе зладзіўся стыхійны сьпеўна-паэтычны конкурс з пытаньнямі-адказамі ў дадатак (сярод вандроўнікаў быў літаратар Міхась Скобла, самы абазнаны дасьледчык жыцьця й творчасьці Ларысы Геніюш). Якраз перад тым ён выдаў чарговую кнігу – "Лісты з Зэльвы", дзе сярод іншых апублікаваныя лісты паэткі да Людмілы Бакуновіч, сёньня адной з старэйшых беларускіх дзяячак у Нью-Джэрзі. Надрукаваныя й некалькі лістоў да мяне.

## Ці замовіць імбрычак гарбаты?

Калі я вярнулася ў Амэрыку, то знаёмыя найперш пыталіся пра выбары й пра стан мовы. Што гаварыць пра выбары, якіх не было? Амаль ніхто з тых, з кім я там камунікавала, на выбарчыя ўчасткі не хадзілі. "Навошта марнаваць час на пустое?" Яны не называлі гэта байкотам і ў большасьці не ўсьведамлялі сябе пратэстоўцамі. Проста праігнаравалі. Аднак актыўныя ў грамадзкім жыцьці людзі часта былі назіральнікамі на выбарчых участках, таму вялі гаворку пра тэндэнцыі, матывы й іншае. Ну, але ж я паабяцала распавядаць толькі пра штодзённасьць…

Практычна ўсюды я паслугоўвалася беларускаю моваю. Вядома,

*Працяг на 6-й бачыне*

# Глянуць на ўзроўні штодзённасьці

*Заканчэньне з 5-й бачыны*

мае знаёмыя, былыя калегі па працы ці грамадзкай дзейнасьці, – гэта людзі беларускамоўныя, на скрайні выпадак – беларускаарыентаваныя. Але я гаварыла гэтак сама і ў крамах, і ў транспарце, і на пошце… Ні разу не сутыкнулася з нэгатыўным стаўленьнем. На рынках дык гэта мне яшчэ й дапамагала, бо часам нават грошы ашчадзіла. Варта было завесьці зь нейкай прадавачкаю прыязную гамонку (адкуль яна, як жывецца-маецца, ці добра ідзе гандаль), як да нас пачыналі прыслухоўвацца суседзі й далучацца да размовы. Кожны пры гэтым імкнуўся прапанаваць свой тавар. Яны паслугоўваліся "трасянкаю", часам хтосьці апраўдваўся, што цяпер жа ўсе "пагарадзкому" хочуць, і часта казалі: "Вы мусіць былі настаўніцаю?" О, каб жа ўсе нашы настаўнікі беларускай мовы былі яе пасьлядоўнымі носьбітамі, мы мелі б іншую сытуацыю! Магчыма… Аднак гэтыя мае субяседнікі былі яшчэ з таго пакаленьня, якое мела бацькоў або бабуль у вёсках ды мястэчках. Маладзенькія прадавачкі ў крамах або афіцыянткі ў кавярнях, што ўзгадваныя цалкам "на асфальце", ужо маюць праблему з моваю. Яны проста не разумелі сэнсу некаторых словаў, перапытвалі, перасмыкваючы плячамі, праўда, адмоўных эмоцый не агучвалі. Можа, яны паблажліва ставіліся да мяне з прычыны ўзросту ("што возьмеш з гэтых старых, ня ўмеюць па-руску!")? Але й я была цярплівай ды ветлівай, тлумачыла незразумелае, не праяўляла да іх агрэсіўнасьці, не паводзіла сябе на манер тых маладзёнаў, якія імкнуцца падкрэсьліваць моваю сваю выключнасьць ("Замаўляю імбрычак гарбаты на дзьве філіжанкі!"). Дый у мове нэафітаў мне часам пагрозьліва рэзалі слых небеларускія "р" і "ч". Усё ж галоўнае: яны пачалі. Навучацца…

Агулам, культура мовы – ніжэй калена, як сказаў адзін вядомы сучасьнік. (Праўда, ня з гэтай нагоды сказаў, бо ягоная мова – яшчэ ніжэй.) Гэта шкодная ілюзія, што ўсе добраахвотна й лёгка перайшлі на расейскую й калі б гэтыя клятыя нацыяналісты не патрабавалі "вярніце нашу мову нам!", дык тут была б ціша й "процветание". Калі пажывеш у разнамоўным асяродзьдзі, вуха лепш чуе… У Менску пануе не расейская мова, а яе беларускі дыялект, яе спрошчаны й абкалгасьнены варыянт. Што на вуліцы, што ў высокіх установах. Як бы хто ні стараўся гэта маскаваць. Натуральную расейскую ў Менску выпадала пачуць гэтак жа рэдка, як і чыстую беларускую.

Паколькі мяне моўнае пытаньне займае, дык з рэпэртуару Купалаўскага тэатру выбрала для прагляду спэктакль "Translation", пастаўлены нядаўна. Сюжэт вельмі пасуе да беларускай сытуацыі. Дзея разгортваецца ў Ірляндыі, калі яе пачынаюць калянізаваць ангельцы. Адпаведна, на сцэне ірляндцы гавораць па-беларуску, ангельцы ды ірляндцы-калябаранты – па-расейску. Выразная гульня актораў, поўная заля гледачоў… І вельмі стрыманая рэакцыя публікі, якая ўсё разумела, але не запальвалася. Мы зь сяброўкай пасьля спэктаклю ўсю дарогу дахаты спрабавалі знайсьці адказ на пытаньне: чаму? І мне думаецца, часткова адказ – у гэтым самым дыялекце. Бо паміж той беларускай і расейскай мовамі, якія гучалі са сцэны, не было выразнага адрозьненьня, не было маўленчага "бар'ернага рыфу". Амаль аднолькава гучала "г" што ў "ірляндцаў", што ў "ангельцаў". Мовы размазаліся… І вобраз супрацьстаяньня зьнік. А зь ім і галоўнае ў гэтым спэктаклі, дзе адзінай узрушальнай сцэнай для публікі стала вечарына зь вясёлымі ірляндзкімі скокамі.

Другі тэатральны прыклад – з Опэрнага. Пасьля вялікай рэканструкцыі тэатар не пазнаць. Мармур, пазалота, опэры ставяцца на мове арыгіналу. А каб публіка разумела, што дзеецца, пра што сьпяваюць, па экране над аркестрам бяжыць сьветлавы тэкставы радок. Мы глядзелі "Сівую легенду" Дзьмітрыя Смольскага на лібрэта Ўладзімера Караткевіча. Уражаньні цудоўныя! Такія шыкоўныя дынамічныя дэкарацыі, такія масавыя мізансцэны! Натуральна, сьпявалі па-беларуску, то тэкставыя радкі былі па-расейску й па-ангельску. Нічога не скажу пра ангельскі тэкст, але расейскі нас зь сяброўкай проста сьмяшыў. (Добра, што нам ён быў без патрэбы, але ж нехта спадзяваўся праз пераклад зразумець тое, што дзеялася на сцэне.) У тэксьце была безьліч беларусізмаў. Адчуваецца, перакладчык проста браў яму незнаёмыя тэрміны з лібрэта, не шукаючы расейскія адэкватнікі.

Прадчуваю, мне скажуць: "Сёньня форма ня важная, важны зьмест". Але ў мове зьмест і форма зьнітаваныя. І калі высокія ўрадавыя чыноўнікі падчас выступу проста "жуюць жуйку" перад публікаю, то гэта ў чарговы раз сьведчыць, што сярэдняя й вышэйшая школа ў краіне знаходзяцца на вельмі нізкім адукацыйным узроўні. Няма масавай беларускай школы, няма нацыянальнага ўнівэрсытэту. Пануе дыялект, "трасянка" – моўная, ідэйная, эстэтычная. Выпускнікі нават простыя тэксты пішуць з памылкамі, яны гавораць пераважна штампамі службовых інструкцый, зусім ня ўмеюць весьці дыялёг, увесь час навязваючы слухачам доўгія ды пустыя маналёгі. Так, прамоўніцкія здольнасьці ня кожнаму дадзеныя, аднак ясна й проста выкласьці сваю пазыцыю або меркаваньне павінен умець кожны адукаваны чалавек. І тут зноў паўстае праблема выбару мовы. Калі ты пераходзіш на чужую мову (у нашым варыяньце – на расейскую), мусіш гадзінамі сядзець у лінгвістычным кабінэце, як гэта робяць сёньня маладыя, што вучаць ангельскую, нямецкую ці якую іншую, каб належна адаптавацца ў глябалізаваным сьвеце. А бяз гэтых высілкаў ня пніся "говорить по-рюски", усёроўна ў табе будуць бачыць "бульбаша". Лепш шліфуй сваю адвечную беларускую мову, якая дзесьці ў падсьвядомасьці яшчэ жыве, авалодвай яе граматычнымі нормамі й лексычным багацьцем ды пачувайся гаспадаром у сваёй краіне. "Будзь сам сабою, і людзі да цябе пацягнуцца" – любіў паўтараць адзін мой калега. Слушна.

## "Гэта ўсё, безумоўна, ня нова"

Я ўжо згадвала, што адрозна ад колішняга савецкага часу цяпер крамаў ды кавярняў шмат-шмат больш. Праўда, дух тагачаснага "грамадзкага харчаваньня", на жаль, пануе нават у некаторых новых. (Мэнтальнасьць марудна мяняецца.) Аднак у кавярні "Ў" я заўсёды прызначала сустрэчы сябрам з прыемнасьцю. Мне імпанавала нязмушанасьць паводзінаў яе наведвальнікаў і ненавязьлівая гасьціннасьць пэрсаналу. Аднойчы летнім днём я назірала за купкай маладых жанчын за суседнім столікам: яны, падобна, пісалі нейкі супольны праект. Лаптап стаяў паміж імі, і кожная штосьці прапаноўвала або абвяргала. Спакойна, сур'ёзна… А іх дзеці былі занятыя гульнёй за суседнім столікам. Часам уся кампанія "перамешвалася", яны замаўлялі штосьці піць або есьці, жартавалі, сьмяяліся. І зноў кожны браўся за справу. З зайздрасьцю (бо мне гэтага няможна) пазірала другім разам на наведвальніка, якому прынесьлі бутэрброд з салам. Ён быў такі аб'ёмны! Тоўстая луста чорнага хлеба, агурок… Мая кава-капучына сіратліва астывала.

Невынішчальная звычка чытаць перад сном або глядзець сэрыялы змусіла мяне ўключаць па вечарах расейскае тэлебачаньне. (Спробы глядзець БТ не ўдаліся.) Сэрыялы мне трапіліся пра міліцыю, дакладней – паліцыю, так называецца цяпер у Расеі гэтая структура. Добрыя акторы выконвалі ролі сьледчых, участковых, інспэктараў дарожнай службы й г. д., таму людзі й канфлікты выглядалі пераканаўчымі. Дык вось, паводле бачаных фільмаў, у Расеі сёньня алькаголю п'юць вельмі шмат, яго пастаянна ўжываюць як адмоўныя гэроі, так і станоўчыя. Напоі, інтэр'еры, у якіх адбываецца "распитие", залежаць толькі ад фінансавага становішча асобы. Вельмі часта гэта можа быць працоўны кабінэт або падвал/падваротня. Нагоды ж аднолькава прымітыўныя: канец працоўнага дня, удала завершаная (або прайграная) справа, памятная дата або проста "пад настрой". А вось вынікове расьсьледаваньне злачынства можа быць толькі ў двух выпадках. Першы, гэта калі зацікаўлены ў сапраўдным адшуканьні злачынцы бок шчодра фінансуе сьледчых (далярамі ў кішэню). Другі, калі ахвяраю злачынцаў стаў калега па працы ў паліцыі, былы саслужывец у "гарачых кропках", хтосьці з блізкіх або родных (уласных або лепшага сябра ці шанаванага начальніка). Наконт іншых здарэньняў… Як каму пашанцуе. Галоўнае для расейскага супрацоўніка паліцыі – гэта напісаць правільна ўсе належныя паперы й сьпіхнуць адказнасьць з сваёй галавы.

Не заўсёды выпадала сустрэцца з чалавекам, якому штосьці прывезла, дык пасылала кнігі ці грошы па пошце. І ніхто не адзвоньваўся ў адказ, не пісаў! Як так можа быць!? У Амэрыцы сходзіш на дзень нараджэньнаў ці хрэсьбіны, дык праз нейкі час атрымаеш ад чалавека "дзякуй, былі рады бачыць вас". Дробязь, але пачалавечы прыемная. А тут… Пачынаеш турбавацца: відаць, не дайшло пасланае. Тэлефануеш. "О, так, атрымалі!" І пачынаецца салодкае й шматслоўнае дзякаваньне. Чуешся няўтульна, быццам ты вымагаеш гэтыя словы падзякі. А хапіла б мне аднаго слова "атрымалі". Нават бязь "дзякуй", толькі, каб своечасова. Шчасьлівым выключэньнем у гэтым, праўда, ёсьць Павал Севярынец, які нават на віншавальныя паштоўкі піша адказ. Разумею, што савецкія (постсавецкія) людзі не прывучаныя да такіх "цырымоніяў". Але ў выніку яны ж і церпяць. Бо той, хто ўзгадаваны на сучасны лад, ветлівы й камунікабельны, ня маючы зваротнай сувязі, перапыняе кантакты з чалавекам, які іх ня хоча (бо не адгукаецца). Вось і я пасьля гэтай паездкі ў Беларусь змушаная была закрэсьліць у сваім нататніку парутройку адрасоў. На шчасьце, дадаліся новыя. Зноў цешу сябе надзеяю.

*Валянціна Трыгубовіч*

# Учора і сёньня

За дваццаць пяць год існаваньня Таварыства Беларускай Культуры ў Літве не было выпадку, каб не адбылося мерапрыемства, заплянаванага на апошнюю суботу кожнага месяца, адзначыў неяк старшыня ТБК Хведар Нюнька. Кожны месяц ёсьць нагода, каб сустрэцца, адзначыць юбілеі вядомых беларускіх дзеячоў, абмеркаваць падзеі Бацькаўшчыны.

У лютым было шмат нагодаў. Першая - традыцыйнае сьвяткаваньне дня Віленскай Беларускай Гімназіі, што адбываецца кожны год пасьля развалу савецкай імперыі. Заснаваная ў 1919 г. (1 лютага) па ініцыятыве вядомага беларускага археоляга, калекцыянера, грамадзкага дзеяча Івана Луцкевіча, яна дзейнічала да 1944г., пакуль не была зачынена савецкімі ўладамі, якія зьнішчалі ўсе беларускія сьляды ў горадзе, які праславіў Францішак Скарына, Леў Сапега, Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч і іншыя беларусы. Значэньне Віленскай беларускай гімназіі прызнавалі ўсе: і сябры і ворагі. Для першых яна была "кузьняй беларускай сьвядомай інтэлігенцыі", для другіх - "гняздом беларускіх нацыяналістаў".

На працягу 25 гадоў існаваньня гімназія перажывала і пад'ёмы, і спады, працавала пры розных рэжымах, была прыватнай, а ў 1933 г. стала дзяржаўнай, фактычна страціўшы незалежнасьць, зрабіўшыся філіяй польскай гімназіі імя Ю.Славацкага. У 1939 г., каб захаваць гімназію, дзякуючы намаганьням ксяндза Адама Станкевіча і Адольфа Клімовіча, удалося набраць вучняў, але гэта не была поўная гімназія, а прагімназія, бо ў ёй былі толькі дзьве першыя клясы замест чатырох.

Падчас нямецкай акупацыі прагімназія зноў стала гімназіяй, у 1944 г. урачыста адсьвяткавала сваё 25-годзьдзе, і ў гэтым жа годзе, пасьля заняцьця Вільні савецкай арміяй, была зачыненая. Савецкая ўлада палічыла не патрэбным лічыцца з беларускім грамадзтвам Вільні і Віленскага краю.

На працягу 25 гадоў працы дырэктарамі гімназіі былі: Мікола Кахановіч, Браніслаў Тарашкевіч, Антон Неканда-Трэпка, Радаслаў Астроўскі, Фелікс Стацкевіч, В.Кавалевіч, Барыс Кіта, кс. Адам Станкевіч, Мікола Анцукевіч і Францішак Грынкевіч.

Кожны год у дзень заснаваньня гімназіі беларусы Вільні і вучні сучаснай Віленскай беларускай школы імя Фр.Скарыны, якая ў лютым гэтага года атрымала статус гімназіі, ускладаюць кветкі на магілу заснавальніка гімназіі Івана Луцкевіча на могілках Росы, а таксама на Ліпаўцы, дзе пахаваны дырэктары гімназіі, настаўнікі, сярод іх і настаўніца беларускай мовы Алёна Сакалова-Лекант, якая працавала ў гімназіі 25 гадоў. Дзякуючы прафесіяналізму выкладчыкаў у гімназіі панавала атмасфэра нацыянальнай і рэлігійнай талерантнасьці, узгадоўваўся беларускі нацыянальны дух.

Пэўны час прыходзіў у Таварыства Беларускай Культуры сын Міколы Анцукевіча Алег Анцукевіч, гэтым разам на нашым мерапрыемстве ўпершыню прысутнічаў унук Міколы Анцукевіча, таксама Мікола Анцукевіч, названы ў гонар дзеда. Прысутнічала выкладчыца Літоўскай Акадэміі музыкі, сябар ТБК Тацьцяна Скарэне, дачка Юрыя Зямніцкага, якая ўжо на працягу 10 год уручае лепшаму вучню 12 клясы за любоў да роднай мовы прэмію імя бацькі, шчырага беларуса, заснавальніка і першага кіраўніка хору "Сябрына". Пра гісторыю Віленскай Беларускай Гімназіі распавяла на імпрэзе Леакадзія Мілаш.

У лютым споўнілася 45 гадоў з дня адкрыцьця краязнаўчага музэя ў Гудзевічах. Актывісты Таварыства некалькі разоў наведвалі Гудзевічы, езьдзілі ня толькі, каб паглядзець экспанаты, але і найперш, каб сустрэцца з яго заснавальнікам Алесем Белакозам, надзвычай цікавым чалавекам, патрыётам, настаўнікам, захавальнікам спадчыны. У музэі знаходзіцца і экспанат Віленскай Беларускай Гімназіі, адзіны ў сьвеце глёбус на беларускай мове, лісты ад Зоські Верас і шмат іншых каштоўных экспанатаў. Я ў Гудзвічах была мо разоў пяць і сваімі ўражаньнямі падзялілася на імпрэзе. Нават была прапанова яшчэ раз наведаць Гудзевічы.

У лютым споўнілася 70 гадоў, як былі закатаваныя каталіцкія сьвятары ў Росіцы. Пра іх жыцьцё і сьвятарскую дзейнасьць напісала кнігу Ірына Жарнасек, а на імпрэзе распавёў дасьледчык, навуковец Алесь Адамковіч.



Агляд жыцьця і творчасьці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, ад дня нараджэньня якога споўнілася 205 гадоў, зрабіў Артур Юдзіцкі. Ён жа напрыканцы зрабіў кароткае паведамленьне пра апошнія навіны зь Беларусі.

На мінулай імпрэзе Валеры Радзюкевіч падрабязна распавёў пра творчасьць ансамбля "Песьняры", наш журналіст Андрусь Старавойтаў зрабіў добрую перадачу на радыёхвалях Літвы пра гэты знакаміты калектыў, якая мела станоўчы водгук сярод слухачоў. На лютаўскай імпрэзе В. Радзюкевіч распавёў пра творчую дзейнасьць былога саліста ансамбля Лявона Барткевіча.

Вядома, што ў ТБК цікавяцца ня толькі гісторыяй мінуўшчыны, але і падзеямі, якія адбываюцца ў Беларусі і Літве цяпер. Хрысьціна Балаховіч у захапленьні ад выставы моды Аляксандра Васільева, якая праходзіць у мастацкай галерэі Вільні. Яна падзялілася сваімі ўражаньнямі з прысутнымі. 23 лютага ў сталіцы Літвы адкрылася фотавыстава беларускага сьвятара Паўла Валынцэвіча. Некаторым здымкам па 100 гадоў, а ўсяго на выставе каля 70 фатаграфій, па іх можна вывучаць жыцьцё і быт беларускіх сялян, погляд сьвятара на сьвет.

Кожная наша імпрэза ў Таварыстве Беларускай Культуры зьяўляецца непаўторнай, і доўгачаканай падзеяй для нашых сяброў, якія не ўяўляюць сабе жыцьця бяз гэтых штомесячных сустрэчаў.

*Леакадзія Мілаш, Вільня*

# Ліст з Аўстраліі

*Сп. Янка Барысевіч з Мельбурну згадвае пра свайго бацьку, які распавядаў яму пра тое, што быў удзельнікам Слуцкага паўстаньня. Ён зьвяртаецца да нашых чытачоў, хто яшчэ мог бы ведаць пра лёсы слуцкіх паўстанцаў.*

Мой бацька, Мікалай Максімавіч Барысавец (можа Борысавец), нарадзіўся 06.12.1896 у вёсцы Бранова, а потым іх сям'я жыла ў вёсцы Старцэвічы на Случчыне. Ён браў актыўны ўдзел у Слуцкім паўстаньні. Калі паўстаньне было задушана бальшавікамі, то шмат паўстанцаў знайшлі сховішча пад апекаю польскай арміі Юзэфа Пілсудзкага. Польскі афіцэр, які рэгістраваў майго бацьку, параіў яму хаця б трохі зьмяніць прозьвішча, бо калі пазьней давядзецца пісаць родным, якія застануцца пад саветамі, то іх могуць за гэта перасьледаваць. Гэты афіцэр не памыліўся. Сям'я майго бацькі сапраўды была перасьледавана. У часы сталінскага тэрору малодшы брат бацькі быў арыштаваны і зьнік бяз сьледу, другі брат таксама загінуў недзе пад Ленінградам. І так польскі афіцэр тады прыпісаў майму бацьку новае прозьвішча – Барысевіч Мікалай, сын Максіміліяна.

У 1939 годзе, а мо нават і пазьней, быў ад бацькавага брата ліст, добра памятаю той адрас: Менская вобл., Слуцкі раён, Сераднікоўскі сельскі савет, вёска Старцэвічы, Барысавец Фёдар Максімавіч. Падаю гэты адрас без засьцярогі, бо старэйшыя ўжо адыйшлі, а маладыя параз'язджаліся хто куды.

Хачу дадаць, што мой бацька не адзін апынуўся ў палякаў. Зь ім прыйшла група з шасьці чалавек. Усе яны былі слуцкімі паўстанцамі.

Неўзабаве мой бацька сустрэўся з маёй маці, ажаніўся і атабарыўся на яе гаспадарцы ў вёсцы Лукашыно, с/с Малюшычы, Карэліцкага раёну, Гарадзенскай вобласьці. Астатнія з гэтай групы Случчакі аселі на сталае пражываньне ў вёсцы Смольчычы (не ведаю дакладна, ці ўсе), гэта нейкіх 10 кілямэтраў ад вёскі, дзе жыў бацька. Прозьвішча правадыра гэтай групы было Лявон Смальчэцкі (сын яго, здаецца, быў равесьнікам майго бацькі). Ня ведаю, ці гэта прозьвішча сапраўднае, ці, можа, ад назову вёскі Смольчычы.

Калі, можа, яшчэ хто-небудзь са змагароў Слуцкага паўстаньня ёсьць пры жыцьці, або нават іх дзеці, унукі, якія маюць хоць нейкія зьвесткі пра гэтых слаўных слуцкіх жаўнераў, вельмі прашу даслаць іх у газэту "Беларус".

Нам, нашчадкам беларускага народу ня можна забываць ня толькі пра падзеі Слуцкага чыну, але і пра ўсе змаганьні за існаваньне нашай пакутнай нацыі. Калі мы не трымаем сувязі з гістарычнымі падзеямі, то мы паводзім сябе як паўсьляпыя. Гістарычную праўду трэба ведаць. Трэба ведаць, адкуль і хто мы ёсьць, які наш род, хто і куды нас вядзе як правадыр. Праўдаю ёсьць тое, што мы цяпер ня маем ані дзяржаўнага, ані духоўнага лідэраў. Пасьля адыходу ад улады Станіслава Шушкевіча ўсё, што ёсьць беларускае, памалу коціцца ў цемру, у якой няма дна. І гэтую цемру зрабіў нам Аляксандр Лукашэнка, яна паступова ўцягвае і яго самога.

*Янка Барысевіч, Мельбурн*

# Любоў жыве ў сэрцах нашых




Існуе шмат легендаў пра жыццё і дзейнасьць сьвятога Валянціна. З гэтых усіх супярэчных адна адной легендаў можна выкраіць некаторыя факты. Быў Валянцін хрысьціянскім сьвятаром і для закаханых рабіў добрую справу: вянчаў салдатаў рымскіх легіёнаў зь іх каханкамі, нягледзячы на тое, што шлюб ім быў забаронены. За гэта яго і пакаралі сьмерцю.

Пазьней каталіцкая царква кананізавала Валянціна, як мучаніка, які пацярпеў за веру. Пасьля Рымскі Папа Геласіус аб'явіў 14 лютага Днём сьвятога Валянціна. А паколькі ён пацярпеў за шчасьце закаханых, то Дзень сьвятога Валянціна аўтаматычна стаў Днём усіх закаханых.

Царква даўно ўжо выкрасьліла Валянціна зь ліку сьвятых, але сьвяткаваць гэты дзень ніхто не перастаў. У многіх краінах сьвету сьвяткаваньне Дня сьвятога Валянціна – гэта добрая традыцыя. Але вось, напрыклад, у Саўдаўскай Аравіі гэта сьвята афіцыйна забаронена, а паспрабуеш сьвяткаваць, дык і штрафам пакараюць.

Напэўна, гэта ня так істотна, з чаго ўсё пачалося, якая была першапрычына сьвяткаваньня, як называецца само сьвята, у гонар каго. Для сапраўды закаханых ня трэба ніякай прычыны і ніякай нагоды, каб сьвяткаваць іх каханьне. Для іх кожны дзень – Дзень закаханых!

Многія рыхтуюцца загадзя да гэтага сьвята. Праводзяць гадзіны, дні і нават тыдні ў роздумах аб тым, што падараваць і якім чынам выказаць свае пачуцьці. Бо трэба і хочацца прызнацца ў каханьні так, як ты не рабіў раней. А яшчэ лепш так, як ніхто яшчэ не прызнаваўся!

Што людзі толькі ні прыдумаюць! Такія звыклыя падарункі, як кветкі, цукеркі, вячэра ў дарагім рэстаране ці залатыя ўпрыгожваньні – гэта прыемна і міла. Але ня так ужо і захапляльна. Таму некаторыя з нас імкнуцца зрабіць у гэты дзень нешта адметнае.

Шмат пар бяруць шлюб менавіта ў Дзень сьвятога Валянціна. З надзеяй на тое, што гэта прынясе ім шчасьце і яны будуць разам цэлае жыцьцё. Так у некаторых краінах набіраецца столькі пар, якія жадаюць уступіць у шлюб, што прыходзіцца ладзіць масавае вясельле. Так здарылася некалькі гадоў назад на Філіпінах, дзе адначасова пачалі сваё сямейнае жыцьцё 140 закаханых пар. Іншыя бяруць шлюб высока ў гарах. І ня цяжка паверыць, што ў такіх абставінах у маладых будзе значна больш уражаньняў і адрэналіну ў крыві, чым у звыклым ЗАГСе. Каханьне, напэўна, застанецца тым самым, але ж хоць на некаторы час падымецца высока над узроўнем мора. Ня менш захапляльных пачуцьцяў у сэрцах закаханых пакінуў шлюб, узяты на 86-ым паверсе знакамітага хмарачоса Эмпайер Стэйт Білдзінг у Нью-Ёрку. Такі, зусім ня танны, падарунак зрабіў сваёй абраньніцы Стэфані Хал Джон Ву, капітан ваеннай авіяцыі. Але гэта калі ў цябе дастаткова грошай.

Для тых, хто ўжо ажаніўся, таксама ёсьць мільён варыянтаў падарункаў. Напрыклад, можна намаляваць сэрца, прабітае стралой, для сваёй каханай жонкі. А чым намаляваць і дзе – гэта ўжо поле для творчасьці мастака-каханага. Адзін такі мастак намаляваў яго на полі! І нічым іншым, а звычайным гноем. Так зрабіў фэрмер з Мінесоты Брус Андэрсленд для сваёй жонкі ў Дзень святого Валянціна. Але гэта калі ў цябе ёсьць поле.

А калі ні поля, ні грошай няма, і не такі ты адважны, каб ў горы лезьці? Што тады рабіць? Я б прапанавала пісаць вершы. Чытаць іх - адно задавальненьне. “Зорка Венера ўзышла над зямлёю, сьветлыя згадкі с сабой прынясла… Помніш, калі я спаткаўся з табою, Зорка Венера ўзышла ”. І не абавязкова Багдановічам быць, альбо пісаць, як ён. Рамантычны верш, напісаны ад душы – стане добрым падарункам.

Таксама гэты дзень людзі выкарыстоўваюць, каб праводзіць розныя акцыі. І такім чынам выказаць сваю любоў не адной асобе, а, напрыклад, жывёлам. У Нікарагуа два гады таму адгулялі вясельле для сабак! Сабакі таксама кахаюць моцна і самаахдана. У іх ёсць пачуцьці, як у людзей. Яны адчуваюць боль, смутак, радасна ім таксама бывае. Так і ўсе іншыя жывёлы. І вясельле гэта было акцыяй, каб




зьвярнуць увагу грамадзкасьці на праблему абароны жывёл у краіне. І падобныя акцыі ўжо ня рэдкасьць. Такія сьвяткавальныя дні даюць магчымасьць акцыі стаць больш шырокай, узрастае верагоднасьць, што большая колькасьць людзей убачыць і зразумее, што арганізатары хочуць данесьці народу.

Добра пасуе Дзень усіх закаханых і для таго, каб выказаць народную любоў. Народную любоў да сваёй Радзімы. Сабрацца на плошчы для нас беларусаў – гэта ня нова. Таму і пайшлі беларускія дзяўчаты: Натальля Лукашэня, Алена Літоўка і Натальля Ганчарук, ад імя беларусаў Філядэльфіі выказаць свае пачуцьці.

Ёсьць у сьвеце і злосныя праціўнікі сьвята, якія не разумеюць, што менавіта ўсе сьвяткуюць. І цяжка будзе ім растлумачыць, калі яны яшчэ не зразумелі, што сьвяткуюць людзі каханьне. Кожны сваё. І адзінае, што хочуць паказаць і расказаць – гэта любоў, бязьмежную сваю любоў. І няма прыгажэйшага чалавека, чым той чыё сэрца напоўнена каханьнем!

*Сьвятлана Шырвель*

# “Кветка Байкала -2013”

Так рамантычна называецца Конкурс эстэтыкі, які ўжо дзявяты раз сёлета праходзіў у Іркуцку. Спачатку гэта быў Конкурс, на якім абіралася пераможцаю толькі дзяўчына-буратка, прадстаўніца карэннага насельніцтва Прыбайкальля. З 2012 году Конкурс стаў міжнацыянальным, цяпер у ім бяруць удзел прадстаўніцы ўсіх народнасьцяў, якія насяляюць гэты край, у тым ліку і беларускі. Адметна, што мінулагодні першы міжнацыянальны конкурс выйграла менавіта беларуская дзяўчына – Вольга Тугарынава.

У гэтым годзе беларуская грамада таксама прапанавала да ўдзелу ў Конкурсе сваю прадстаўніцу Святлану Елікаву. Гэтым разам першае месца заняла татарка, але наша Сьвятлана вельмі годна прадстаўляла беларусаў. Ужо ад самага пачатку яна зьвярнула на сябе асаблівую увагу, падрыхтавала ў вершаванай форме аповяд пра сябе і сваю сям'ю. А на наступным этапе Конкурсу, дзе трэба было паказаць свае творчыя здольнасьці, Сьвятлана ярка прадэманстравала беларускія нацыянальныя традыцыі. Яна выйшла ў строі Купалінкі, зь вяночкам на галаве і цудоўна выканала рамантычны купальскі танец. Заля проста ўзарвалася апладысмэнтамі. Потым Сьвятлана прадставіла сваю мастацкую працу - “пацеркі”, вышытыя бісерам у традыцыйных беларускіх бел-чырвона – белых колерах.

На жаль, перамагчы Сьвятлане гэтым разам не ўдалося, але ня гэта было самым галоўным. Галоўнае, што на сьвяце была прыгожа прадэманстравана беларуская культура. Мы ганарыліся нашай Купалінкай.

У сьвяце прыняў удзел і беларускі ансамбль аўтэнтычнай песьні "Крывічы" пры Іркуцкім Таварыстве беларускай культуры. У канцэртнай частцы праграмы ён выканаў дзьве беларускія народныя песьні, і гэты выступ быў вельмі цёпла прыняты гледачамі.

*Алег Рудакоў,*
*Старшыня Іркуцкага Таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага*

# Весткі з Англіі

***

Ангельскія газэты не цікавіліся парлямэнцкімі выбарамі ў Беларусі 23.09.2012. Адна толькі газэта “Financial Times” коратка згадала гэтыя выбары. Ян Цэсінскі напісаў з Варшавы, што вядучыя палітычныя партыі заклікалі людзей байкатаваць выбары.

***

У газэце “The Independent” за 19.10.2012 быў апублікаваны доўгі артыкул – інтэрвію Яўгена Лебедзева з Аляксандрам Лукашэнкам.

***

Газэта “The Daily Telegraph” за 08.02.2013 надрукавала кароткае, але загадкавае паведамленьне. Станіслаў Шушкевіч піша ўспаміны і дзеля гэтага зьвярнуўся, каб яму далі паглядзець важны дакумэнт, які ён некалі падпісаў у Віскулях у 1991 годзе разам з Б. Ельцыным і Л. Краўчуком – Дамову аб развале СССР. Аднак ў міністэрстве замежных справаў Беларусі яму адказалі, што тэксту дакумэнта яны ня маюць. Арыгінал гэтага дакумэнта так і не ўдалося пакуль знайсьці. Па-рознаму можна думаць аб прычынах такой загадкавай сытуацыі, але, відавочна, што нехта зацікаўлены, каб гэтага гістарычнага дакумэнта не было ў арыгінале.

*Міхаіл Швэдзюк*

# Сустрэча ў лесе

*Пераклад гэтай незвычайнай і вельмі ўражлівай гісторыі даслаў нам перад Калядамі сп. Анатоль Пранцэвіч з Портлянду. На жаль, з-за недахопу месца нам не ўдалося надрукаваць яе ў сьвяточных нумарах. Але падаецца, што яна падыходзіць для любога часу, бо распавядае пра гуманнасьць і дабрыню, пра тыя вечныя каштоўнасьці, якія лучаць людзей і ўзвышаюць чалавека над абставінамі, якімі б драматычнымі яны ні былі.*

***“...іншым шляхам адыйшлі ў краіну сваю.” –Мац.2:12***

Гэта было напярэдадні Раства 1944 году ў Нямеччыне. Ішла Другая усясьветная вайна. Калі пастукалі ў нашыя дзьверы, мы з матуляй нават і не ўяўлялі, што станем сьведкамі сапраўднага цуда.

Мне тады споўнілася 12 гадоў. Мы жылі ў маленькім дамку ў лесе на нямецка-бэльгійскай мяжы. Перад вайной бацька зрэдку выкарыстоўваў гэты дамок для начоўкі, калі хадзіў на паляваньне. А пад час вайны, калі наш горад Ахен усё часьцей падпадаў пад паветраныя напады, бацька завёз нас сюды. Бацьку накіравалі ў памежны горад на службу ў часьць супрацьпаветранай абароны.

Незадоўга да Раства дзесьці паблізу распачаўся бой.

Калі ў той вечар хтосьці пастукаў да нас у дзьверы, маці адразу патушыла сьвечку. Адчыніўшы дзьверы, яна ўбачыла на фоне змрочных дрэваў двух мужчынаў у касках. Адзін загаварыў на незразумелай мове і ўвесь час паказваў на трэцяга, які ляжаў на сьнезе.

Маці здагадалася: гэта амэрыканцы, нашыя ворагі. Яна стаяла ў дзьвярах, паклаўшы руку мне на плячо, не ў стане паварушыцца. Гэтыя салдаты са зброяй маглі ў любы момант самавольна зайсьці ў дом. Але яны стаялі не рухаючыся.

Ляжачы на сьнезе быў паранены. Ён быў больш падобны на мёртвага, чым жывога. “Заходзьце”, – нарэшце сказала маці. Салдаты занесьлі параненага таварыша і паклалі яго на мой ложак. Нямецкай мовы яны ня ведалі. Тады маці на ламанай францускай загаварыла з адным салдатам. Мне яна сказала: “Гэтыя двое памарозілі пальцы. Дапамажы ім зьняць курткі і боты і прынясі вядро сьнегу з вуліцы”.

Хутка я ўжо націраў сьнегам адубянелыя пальцы салдатаў, а маці ўзялася аглядаць параненага. Мы даведаліся, што аднаго зь іх – каржакаватага - завуць Джым. Ягонага сябра, высокага і хударлявага – Робін. Параненага звалі Гары, ягоны твар быў белы, як сьнег. Куля трапіла яму ў сьцягно, і ён згубіў шмат крыві. Маці парвала прасьціну на бінты для перавязкі.

Гэтыя салдаты нейкім чынам адсталі ад сваёй часьці і тры дні блукалі па лесе. Яны былі няголеныя, але, калі зьнялі шынялі і каскі, мы ўбачылі, што яны вельмі маладыя. Таму маці абыходзілася зь імі, як з сынамі. “Прынясі Гэрмана, – сказала яна мне, – і бульбу”.

Я зразумеў, што наша сьвяточная праграма зьмянілася. Гэрман быў наш певень. Гэта маці яго так назвала. Мы спэцыяльна яго адкормлівалі, спадзеючыся, што тата на сьвята прыдзе дамоў. Але некалькі дзён таму мы даведаліся, што сытуацыя на фронце пагоршылася і тата не прыедзе. Яшчэ мы спадзяваліся, што ён зможа прыехаць на Новы год, таму маці вырашыла пачакаць і пакуль ня смажыць пеўня.

Джым і я дапамагалі матулі на кухні, а Робін дапамагаў Гары. Хутка пах смажанага пеўня напоўніў пакой. Я пачаў зьбіраць на стол.

Раптам хтосьці пастукаў у дзьверы. Я падумаў, што гэта ізноў амэрыканцы, і без прамаруджваньня адчыніў дзьверы.

На дварэ стаялі чацьвёра мужчын ва ўніформах. Я адразу пазнаў форму нямецкіх салдат. Гэта былі нашы салдаты. Я застыў. Хаця я і быў малы, але ведаў: хто прытуліць ворагаў – здраднік. Нас маглі расстраляць, даведаўшыся, хто знаходзіцца ў доме.

Мама таксама спалохалася. Яе твар зьбялеў, але яна падыйшла і спакойна сказала: “З Раством Хрыстовым!” Салдаты ветліва адказалі на прывітаньне. “Мы адсталі ад сваёй часьці і хацелі б у вас пераначаваць”, – растлумачыў унтэр-афіцэр – Можна ў вас спыніцца? “Вядома, – адказала маці на зьдзіўленьне спакойна, – вы можаце нават пад’есьці разам з намі”. Салдаты задаволена ўсьміхнуліся, удыхаючы смачны пах, які даносіўся праз адчыненыя дзьверы.

“Аднак, – энэргічна прадоўжыла маці, – тут знаходзяцца яшчэ трое, якіх вы, магчыма, ня лічыце сябрамі”. Яе голас раптам стаў вельмі строгі. Я ніколі яшчэ ня чуў, каб яна так гаварыла. “Сёньня – пярэда-дзень Раства, таму я не дазволю тут страляць”.

“Хто там?” – рэзка спытаў унтэр-афіцэр.

“Амэрыканцы?”

Маці паглядзела ў іх твары. “Паслухайце, – сказала яна салдатам, – вы, як і тыя, хто знаходзіцца ў доме, маглі б быць маімі сынамі. Яны, як і вы, заблудзіліся. Апрача таго, адзін зь іх цяжка паранены, у гэтую Сьвятую ноч мы не павінны думаць пра сьмерць”.

Некалькі сэкунд панавала цішыня. Нарэшце маці парушыла яе: “Хопіць тут стаяць, пакладзіце сваю зброю і заходзьце”. Задубянелыя салдаты паслухмяна паклалі зброю на скрынку з дровамі. Маці тым часам зайшла ў хату і сказала нешта Джыму па-француску, а ён - свайму сябру. Я ўбачыў, што яны аддалі маці зброю.

Цяпер у маленькім доміку адзін насупраць другога зьбянтэжана стаялі салдаты дзвюх варожых армій. А маці спрабавала разьмясьціць усіх. У нас было тры крэслы, двух нямецкіх салдат яна пасадзіла на ложак побач з амэрыканцамі Джымам і Робінам.

Не зьвяртаючы ўвагу на напружаньне, яна працягвала гатаваць вячэру. Памеры пеўня ў патэльні ня сталі большымі, а ядакоў прыбавілася. “Хуценька прынясі аўсяныя камячкі, – сказала яна мне, – хлопцы галодныя, а галоднага чалавека усё раздражняе”.

Рыючыся ў каморцы, я чуў, як стагнаў Гары. Вярнуўшыся ў пакой, я ўбачыў, як нямецкі салдат аглядаў рану амэрыканца. “Вы санітар?”– спытала маці. “Не, – адказаў ён, – але я некалькі месяцаў вучыўся ў мэдычным інстытуце”. Затым ён па-ангельску растлумачыў амэрыканцам, што дзякуючы марозу рана Гары не інфіцыраваная. “Ён страціў шмат крыві, - сказаў салдат маці, – і цяпер мае патрэбу ў спакоі і паўнавартасным харчаваньні”.

Напружаньне памалу аціхла. Мы даведаліся, што нашым салдатам было усяго па 16 гадоў. Самым старэйшым быў унтэр-афіцэр, якому споўнілася 23 гады. Ён дастаў са сваёй торбы бутэльку віна. А другі салдат – буханку хлеба. Хлеб маці разрэзала так, каб усім дасталося па кавалку, а віно пакінулі хвораму.

Перад пачаткам вячэры маці падзякавала Богу за ежу. Я ўбачыў на яе вачах сьлёзы, калі яна прамаўляла словы малітвы. Зірнуўшы на нашых гасьцей, я заўважыў, што на вачах гэтых змучаных вайною салдатаў таксама былі сьлёзы. У гэты момант яны былі проста хлопцы, якія прыехалі з Амэрыкі і з розных мясьцінаў Нямеччыны.

Апоўначы маці паклікала ўсіх на вуліцу, каб паглядзець на Бэтлеемскую зорку. Усе, акрамя Гары, спакойна спаўшага, глядзелі на зорачку, якая зьзяла ў начным небе.

Нашы госьці за ноч добра адпачылі. Нават Гары памацнеў, дзякуючы матулінаму дагляду. На сьнеданьне яна прыгатавала яму булён, а мы елі аўсяныя камячкі.

Пасьля сьнеданьня маці і салдаты зрабілі з тоўстага палатна насілкі для Гары. Нямецкі унтэр-афіцэр растлумачыў Джыму, як дабрацца да амэрыканскай часьці.

Потым маці аддала ім зброю. “Будзьце асьцярожныя, – прасіла яна іх, – я зычу, каб у адзін цудоўны дзень вы ўсе маглі вярнуцца дамоў. Няхай сьцеражэ вас Бог!”

Салдаты паціснулі адзін аднаму рукі. Немцы накіраваліся ў адзін бок, амэрыканцы – у другі. Мы з матуляю стаялі на двары і глядзелі ім усьлед, пакуль яны ня зьніклі ў лесе.

Калі я зайшоў у пакой, дык убачыў, што маці дастала старую Біблію. Я спыніўся каля яе і праз плячо сачыў за тым, што яна чытала. Яна чытала пра нараджэньне Ісуса і пра тое, як мудрацы прынесьлі Дзіцятку дары. Потым яе пальцы спыніліся на радку: “...іншай дарогай адыйшлі ў краіну сваю” (Мас.2:12)

*Пераклад Анатоля Пранцэвіча*

# Прэзэнтацыя ў Гайленд Парку




Нядаўна выйшла з друку кніжка аўтарства Джоэн Станкевіч, якую добра ведаюць сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы як шчырую прыхільніцу беларускай справы і актыўную шматгадовую ўдзельніцу беларускага жыцьця. Карэнная амэрыканка, яна зьвязала сваё жыцьцё ў шчасьлівым сужэнстве зь беларусам Вячкам Станкевічам. Жыцьцё нацыянальна сьведамай сям'і Станкевічаў сталася і ейным жыцьцём. Сп-ня Джоэн добра абазнаная ў беларускіх праблемах, нязьменна цікавіцца падзеямі ў Беларусі. У сваёй кнізе яна апавядае пра "эўрапейскія прыгоды", але сваё пэўнае месца займае там і беларуская тэма.

Назва кніжкі : "Living with the Scent of Danger – European Adventures at the Fall of Communism", у перакладзе "Жывучы з пахам небясьпекі – эўрапейскія прыгоды пад час распаду камунізму".

Успаміны аўтаркі апісваюць канец "халоднай вайны", развал Савецкага Саюзу, аднаўленьне незалежнасьці Беларусі ў 1988-2001 гады. Тады яны разам з мужам жылі ў Мюнхене, Празе і Флярэнцыі.

Сп. Станкевіч цягам 10 гадоў працаваў на Радыё Свабода, зь якіх – 8 гадоў дырэктарам Беларускай рэдакцыі гэтага амэрыканскага Радыё. У гэты час аўтарка ўспамінаў не была толькі хатняю гаспадыняю, але знайшла ў сабе сьмеласьць заснаваць пасьпяховае прадпрыемства ў Італіі, нягледзячы на моўныя цяжкасьці і зьвязаныя з гэтым сьмешныя, а часам і камплікаваныя прыгоды.

Джоэн і Вячка разам падарожнічалі па Эўропе і, не зважаючы на патэнцыйную небясьпеку, перасякалі існаваўшую тады яшчэ "жалезную заслону". З Мюнхену выяжджалі да сваякоў у Прагу і Польшчу, наведалі Беларускі фестываль і Купальле на Беласточчыне. Пазьней наведалі і Вячкаў родны горад Вільню, дзе ён нарадзіўся, а ўлетку 1993 году бралі ўдзел у Першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску.

Першая прэзэнтацыя кнігі ў беларускім асяродку прайшла 24 лютага ў царкоўнай залі ў Гайленд Парку. Аўтарка чытала вытрымкі з кнігі, адказвала на пытаньні і ставіла для жадаючых свой аўтограф на набытыя прысутнымі тут жа кнігі. Імпрэза прайшла ў цёплай сяброўскай атмасфэры. Старэйшыя ўспаміналі тыя памятныя часы, калі амаль кожнаму зь іх давялося сутыкнуцца з такімі ж прыгодамі і праблемамі, якія спараджаліся існаваньнем "жалезнай заслоны" паміж заходнім дэмакратычным сьветам і ўсходнім таталітарным ды камуністычным. А маладым было проста цікава паслухаць пра гэтыя цяпер ужо гістарычныя падзеі ад аўтаркі, што ўспрымала ўсё гэта вачыма амэрыканкі, якой пашчасьціла ня зьведаць "радасьці" жыць пры камунізме, але давялося ўскосна дакрануцца да гэтай балючай тэмы.

Сп-ня Джоэн таксама прэзэнтавала сваю кнігу 10 сакавіка ў грамадзка-царкоўнай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку.

Падаем тут адрас асабістага сайту сп-ні Джоэн дзеля шырэйшага знаёмства з аўтаркаю і адрас у інтэрнэце, па якому можна замовіць кнігу:
www.JoanneIvyStankievich.com
www.amazon.com/Living-Scent-Danger-Adventures-Communism/dp/1432775863

*Ганна Сурмач*

## Віншаваньне



*Ганна Войтанка (другая зьлева) з каляжанкамі – Людмілай Бакуновіч, Марыяй Данілюк, дачкой і ўнучкай з праўнукам.*

Віншуем з днём народзінаў Ганну Войтанку з Гайленд Парку.

У нядзелю з 87-мі ўгодкамі ад дня народзінаў сп-ню Ганну віншавалі ў грамадзкай залі пры царкве ў Гайленд Парку. Такой павагі сп. Ганна заслугоўвае тым, што ўжо шмат гадоў актыўна ўдзельнічае ў парафіяльным і грамадзкім жыцьці, цудоўна пячэ прасфоркі для Багаслужбаў. Прысутныя засьпявалі "Многая лета…" а сп. Віктар Дубяга ўручыў букет цудоўных кветак. Потым ўсе пачаставаліся смачным абедам і сьвяточным тортам. На сьвяце прысутнічалі прыхаджане царквы Жыровіцкае іконы Божае Маці БАПЦ, а таксама адна з дачок спадарыні Ганны з мужам і ўнучка з мужам ды сынам (праўнукам Ганны).

*Валянціна Трыгубовіч*

## Нам пішуць

***

Сп-ня Таіса Кабанчук зь Беларусі разам са сьвяточнымі віншаваньнямі выказала нам падзяку: "Вялікі вам дзякуй за газэту "Беларус", якую мне дасылаеце. Мы яе чытаем усёй нашай Бабруйскай суполкаю хрысьціянскіх дэмакратаў, а потым перадаем яшчэ і ў іншыя гарады і пасёлкі".

***

Узаемна і Вам дзякуем, сп-ня Таіса, а таксама прапануем даслаць нам адрасы тых Вашых сяброў, хто хоча атрымліваць нашу газэту ў гэтых іншых мясцовасьцях.

***

Выказваем падзяку сп. Аўгену Грушу з аўстралійскага Мэльбурну, які дасылаў нам рупліва сабраныя ім публікацыі ў аўстралійскім друку пра спартовыя дасягненьні беларускай тэнісісткі Вікторыі Азаранкі, якую добра ведаюць у Аўстраліі і ейныя выступы заўсёды абуджаюць гонар аўстралійскіх беларусаў за сваю краіну.

## Забойства Рамана Вайніцкага



У Вільні забіты прэзыдэнт Асацыяцыі беларускіх арганізацыяў Літвы Раман Вайніцкі. Ён быў знойдзены раніцаю 6 сакавіка ў сутарэньні шматпавярховага дому, дзе жыў зь сям'ёй. Паводле папярэднix дадзеных паліцыі, ён памёр ад жорсткіх катаваньняў.

Рамана знайшлі зьвязаным, з заклеенымі вуснамі, на целе — сьляды катаваньняў. Дакладную прычыну забойства шукаюць экспэрты, а калегі і знаёмыя загіблага паведамілі, што Вайніцкаму напярэдадні некалькі разоў пагражалі невядомыя.

Раман Вайніцкі быў актыўным беларускім грамадзкім дзеячам: ён ачольваў клюб аматараў беларускай культуры «Сябрына», а ў 2009 годзе быў абраны прэзыдэнтам Асацыяцыі, якая аб'ядноўвала большасьць беларускіх суполак па ўсёй Літве.

Сёлета ён быў таксама абраны віцэ-старшынём Рады нацыянальных супольнасьцяў Літвы пры Міністэрстве культуры Літвы. Цягам апошняга году ён ня раз выказваўся ў прэсе супраць спробаў далучыць беларускую дыяспару ў Літве да пратэстаў і грамадзкіх і палітычных акцыяў супраць законаў Літвы ў сфэры адукацыі і культурнай дзейнасьці нацыянальных меншыняў. Менавіта гэта і называюць адной з магчымых прычынаў забойства. У інтэрвію тэлеканалу LNK літоўскі парлямэнтар Арвідас Анушаўскас заявіў, што Раман Вайніцкі мог замінаць Расеі ў спробах аб'яднаць нацыянальныя меншыні супраць літоўскай дзяржавы і яе нацыянальнай палітыкі.

# Каляндар памятных датаў на сакавік 2013

**1 сакавіка** - 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Алесь Змагар (Аляксандр Яцэвіч), удзельнік Слуцкага паўстаньня, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі і ЗША

**1 сакавіка** - 95 гадоў таму, у 1918 годзе, выйшаў першы нумар газэты "Дзяньніца", органа Беларускага нацыянальнага камісарыята

**1 сакавіка** – 80 гадоў таму, у 1933 годзе, у ссылцы памёр Уладзімір Жылка, паэт

**2 сакавіка** – 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Уладзіслаў Рыжы-Рыжскі, грамадзкі і рэлігійны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Бэльгіі, Італіі, Гішпаніі і ЗША

**3 сакавіка** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, падпісана ў Берасьці мірная дамова паміж Савецкай расеяй і Нямеччынай, паводле якой Беларусь старціла значную частку сваёй тэрыторыі

**7 сакавіка** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, забіты Фабіян Акінчыц, грамадзка-палітычны дзеяч

**7 сакавіка** – 30 гадоў таму, у 1983 годзе, памёр у Шчэціне Антон Сокал-Кутылоўскі, вайсковы і грамадзкі дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**9 сакавіка** - 130 гадоў таму, у 1883 годзе, нарадзіўся Францішак Аляхновіч, нацыянальны дзеяч, драматург

**9 сакавіка** – 95 гадоў таму, у 1918 годзе, была абвешчана Другая Устаўная грамата Беларускай Народнай Рэспублікі Выканаўчым камітэтам Рады Усебеларускага зьезду

**9 сакавіка** – 60 гадоў таму, у 1953 годзе, памёр у Лювэне Мікола Равенскі, кампазытар, фальклярыст, аўтар гімну "Магутны Божа"

**11 сакавіка** – 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Тодар Кляшторны, паэт, вязень сталінскіх лягераў

**12 сакавіка** - 50 гадоў таму, у 1963 годзе, у Гайнаўцы (Беласточчына) адкрыўся Беларускі музэй

**14 сакавіка** - 70 гадоў таму, у 1943 годзе, у Празе памёр Васіль Захарка, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

**16 сакавіка** – 105 гадоў таму, у 1908 годзе, нарадзіўся Васіль Кендыш, грамадзкі дзеяч, настаўнік, праваслаўны сьвятар, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**16 сакавіка** - 10 гадоў таму, у 2003 годзе, у Менску адбыўся Першы Усебеларускі сход інтэлігенцыі

**21 сакавіка** – 405 гадоў таму, у 1608 годзе, памёр Канстанцін Астрожскі, дзеяч вялікага княства Літоўскага

**22 сакавіка** - 70 гадоў таму, у 1943 годзе, спалена разам з жыхарамі вёска Хатынь

**23 сакавіка** - 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Рыгор Шырма, грамадзка-культурны дзеяч, харавы дырыжор, фальклярыст

**25 сакавіка** - Дзень Волі

**25 сакавіка** - 95 гадоў таму, у 1918 годзе, была прынятая Трэцяя Устаўная грамата, якою Беларусь абвяшчалася незалежнай рэспублікай

**27 сакавіка** – Міжнародны дзень тэатра

**27 сакавіка** – 20 гадоў таму, у 1993 годзе, у Вільні на могілках Росы адкрыты помнік Івану і Антону Луцкевічам

**30 сакавіка** – 60 гадоў таму, у 1953 годзе, нарадзіўся Валеры Масьлюк, тэатральны рэжысэр

**30 сакавіка** – 45 гадоў таму, у 1968 годзе, у Перце (Аўстралія) адбылося адкрыцьцё Беларускага Народнага Дому

**30 сакавіка** - 30 гадоў таму, у 1983 годзе, памерла Аўгіньня Каранеўская (Воўк-Леванові), настаўніца, дзеячка эміграцыі ў Аўстраліі

**31 сакавіка** - 110 гадоў таму, у 1903 годзе, нарадзіўся Міхась Маскалік, грэка-каталіцкі сьвятар, навуковец

## Сьв. памяці: Аляксандр Бушкевіч



Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта з глыбокім смуткам паведамляе пра заўчасную трагічную сьмерць Аляксандра Бушкевіча. Яго ня стала 16 сьнежня 2012 году, было Аляксандру толькі 50 гадоў.

У 1998 годзе Аляксандр Бушкевіч выконваў абавязкі сакратара Галоўнай управы Згуртаваньня Беларусаў Канады. З 2000 па 2002 быў старшынём рады Парафіі сьвятога Кірылы Тураўскага.

Аляксандр нарадзіўся 5 лістапада 1962 году ў Пінску. Скончыў Менскі політэхнічны інстытут. Прыехаў у Канаду ў 1991 годзе. У 1995 годзе ажаніўся, ў іх нарадзіўся сын Марк, якога хрысьціў Уладыка Мікалай. Разам з жонкай Аксанай Аляксандр адкрыў свой бізнес "The Sign Place". Перад любым сьвятам мы зьвярталіся да Бушкевічаў па дапамогу ў дэкарацыі залі альбо замаўлялі плякаты, надпісы, шыльды, і ніколі не было адмовы.

Вестка пра дачасны адыход Аляксандра стала велізарным узрушэньнем для ўсіх, хто быў знаёмым з гэтым сонечным, таленавітым, шчодрым чалавекам.

Шчыра выказваем спачуваньні родным і блізкім. Сьветлая яму памяць!

*Рада Парафіі сьвятога Кірылы Тураўскага.*

## Сьв. памяці Валянцін Грыцкевіч



5 сакавіка пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр вядомы гісторык і беларускі грамадзкі дзеяч ў Санкт-Пецярбургу Валянцін Грыцкевіч, яму ішоў 80-ты год.

Валянцін Грыцкевіч нарадзіўся 30 сакавіка 1933 году ў Менску, у сям'і настаўніка і мэдыка. Скончыў Інстытут замежных моваў (1955), Мэдыцынскі інстытут (1956), гістарычны факультэт БДУ (1957). Працаваў лекарам ва Ўзьлянах на Меншчыне, у Менску, Ленінградзе. З 1971 году — старшым навуковым супрацоўнікам Ваенна-мэдыцынскага музэю Мінабароны СССР. Адначасова выкладаў гісторыю ў Пецярбурскім (Ленінградзкім) унівэрсытэце культуры (з 1980 г.), з 1988 г. — дацэнт катэдры музэязнаўства гэтага ж інстытуту.

Валянцін Грыцкевіч быў адным з арганізатараў і нязьменным старшынём Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Пецярбургу (з 1989 г.), сябрам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, Міжнароднага ПЭН-цэнтру, ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябрам Расейскага геаграфічнага таварыства, Пецярбурскага таварыства гісторыкаў мэдыцыны, замежным сябрам Беларускага таварыства гісторыкаў мэдыцыны, сябрам Вялікай Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына».

## Сьв. памяці Сакрат Яновіч
### (4.09.1936 – 17.02.2013)



На Беласточчыне памёр Сакрат Яновіч, выдатны пісьменьнік, заслужаны грамадзкі дзеяч, нястомны арганізатар культурна-навуковай працы й шчыры патрыёт Бацькаўшчыны, які зрабіў вялікі ўплыў на беларускае адраджэньне ў Польшчы й па-за еймі межамі. Беларусы ЗША добра памятаюць сустрэчу з Сакратам Яновічам у Нью Ёрку й Нью Джэрзі, калі трашчэлі муры маскоўска-камуністычнай турмы народаў і калі ў Польшчы набіраў сілы рух беларускай студэнцкай моладзі. Дынамічным натхняльнікам і стымулятарам яго быў Сакрат Яновіч. Ён заставаўся актыўным у розных дзялянках грамадзкага жыцьця праз усе далейшыя гады, пакінуўшы па сабе вечную памяць.

З глыбокім смуткам ды шчырым спачуваньнем сям'і й сябрам -

*Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША*

# Сьвяткуем Дзень Волі ў Нью-Ёрку

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), Бруклінскі аддзел БАЗА, Парафіяльная рада Сабору БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью–Ёрку віншуюць сваіх сяброў, усіх беларусаў Амэрыкі, грамадзянаў Беларусі і беларускую супольнасьць па цэлым сьвеце з надыходзячым
**Днём Волі.**

Запрашаем на ўрачыстую імпрэзу, прысьвечаную 95-м угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, якая адбудзецца
**24 сакавіка 2013 году ў грамадзкай зале на 401 Atlantic Ave у Брукліне.**

Запрашаем сяброў БАЗА, парафіянаў Сабору і ўсіх беларусаў зь Нью-Ёрку і іншых мясьцінаў Амэрыкі прыйсьці на Сьвята, разам адзначыць нашу слаўную дату, пабыць зь сябрамі і паплечнікамі, згадаць пра Бацькаўшчыну і гераічную гісторыю змаганьня за незалежнасьць.

У праграме Сьвята - урачыстая Багаслужба ў царкве, афіцыйная частка з рэфэратам і віншаваньнямі, мастацкая праграма і пачастунак зь беларускіх страваў, фільмы, сьпевы, новыя знаёмствы і цёплыя сустрэчы з суродзічамі. Прыходзьце зь сем'ямі, сябрамі, зь дзеткамі!

Уступныя квіткі будуць прадавацца на ўваходзе, кошт будзе паведамлены ў запросінах, якія будуць дасылацца праз электронную і звычайную пошту.
**Пачатак сьвяточнай імпрэзы ў 1:00 па палудні, Багаслужба ў царкве ў 10:00 раніцы**
Жадаючыя могуць падаць ахвяраваньні на Дар Сакавіка, якія штогадова на Сьвята зьбіраюцца скарбнікам БНР
**Даезд: цягнікі Q, B, D, N, R, 2,3,4,5 да прыпынку Atlantic Ave – Pacific Str**
**A, C, G – да прыпынку Hoyt-Schermerhorn**
**F – да прыпынку Bergen Str.**

Дадатковая інфармацыя па тэлефоне: 1 646 250 1784, Таня Красоўская, ці на e-mail: premiere718@yahoo.com

# Сцэнкі з жыцьця "Патэйта фры"

Амаль кожны з нас можа згадаць нейкі сьмешны выпадак з пачаткаў свайго жыцьця ў Амэрыцы. Найбольш прыкрасьцяў ды нязёмкіх сытуацыяў спатыкалі нас па прычыне слабога валоданьня ангельскаю моваю. І нават тым, хто яшчэ дома аваладаў ёю і лічыў, што ўжо дастаткова добра гаворыць па-ангельску, даводзіцца прызнаць, што гэтага недастаткова, бо ёсьць і мясцовыя асаблівасьці.

Адзін з маіх сяброў, якога маці, выкладчыца ангельскай мовы ў Беларусі, навучыла размаўляць па-ангельску, таксама думаў, што ў яго ня будзе праблемаў з моваю за акіянам. Дык вось з гэтым Міколам на першым часе па прыездзе ў Амэрыку здарыўся такі выпадак. Забег аднойчы ў прыдарожную "забягалаўку" перакусіць. Падыйшоў да стойкі і замовіў "патэйта фры". Усеўся за столік, афіцыянт прынёс яму поўную талерку смажанай бульбы, зьеў і пайшоў да стойкі разлічыцца. Пытаецца, колькі павінен заплаціць, а касірка на яго зьдзіўлена вылупіла вочы і кажа: "Чаму? Ты ж прасіў бульбы задарма, мы падумалі, што ты галодны і не маеш грошай". У нашага хлопца аж вушы пачырванелі ад нязёмкасьці. Толькі потым дайшло, што зблытаў ангельскія словы free , што азначае задарма, і fried – смажаная. Ён хацеў папрасіць смажаной бульбы, а сам папрасіў дарэмнай. Аднак быў аднaчасна вельмі прыемна ўражаны дабрасардэчнасьцю амэрыканцаў – бязь лішніх роспытаў яго пакармілі бясплатна, папрасіў чалавек і далі. Нячаста такое сустрэнеш. Засталося толькі сардэчна падзякаваць і ўсё ж заплаціць дзеля захаваньня ўласнага гонару.

*Ганна Сурмач*

# Беларуска выступіла ў Нью-Ёрхскай "Метраполітэн-оперы"



28 студзеня беларуская сьпявачка Аксана Волкава, салістка Беларускага опэрнага тэатра дэбютавала на сцэне "Метраполітан-опэры"

Прэм'ера спэктакля прайшла з бліскучым посьпехам. Аксана Волкава выканала партыю Магдалены ў опэры «Рыгалета» Джузэпэ Вэрдзі. Сьпявачка валодае моцным і своеасаблівым мецца-сапрана шырокага дыяпазону.

Міжнародная кар'ера сьпявачкі разьвіваецца імкліва. Яна выконвае вядучыя партыі ў спэктаклях Вялікага тэатра Расеі, Оперы Ніццы, на сцэне Тэатра Массімо ў Палерма, Тэатра Сан Карла Неапаль і інш.

У красавіку Аксана Волкава будзе сьпяваць ў оперы «Кармэн» у Буэнас- Айрэсе.

# На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Беларускі грамадзкі цэнтр "Полацак" | $ 200 |
| Кацярына Вішнёва | $ 50 |
| Вольга Грыцук | $ 200 |
| Арцём Гусак | $ 50 |
| Барыс Гайда, Галіна Бахар-Гайда, Люба Бахар | $ 200 |
| Кірыл Ермакоў | $ 50 |
| Вера Запруднік | $ 50 |
| Янка і Надзя Запруднік | $ 100 |
| Юры Касьцюкевіч | $ 50 |
| Алена Касоўскі | $ 200 |
| Яўген і Вольга Кабяка | $ 50 |
| Васіль Кузьменка | $ 50 |
| Ільля Куніцкі | $ 20 |
| Наталія Лукашэня | $ 50 |
| Марыя Мароз, Алекс Мароз, Марыя Міхал, Міхась Раецкі, Беларускае аб'яднаньне ў Заходняй Аўстраліі | $ 350 |
| Кастусь Маталыцкі | $ 50 |
| Кастусь Міpановіч | $ 10 |
| Элеанора Норык | $ 50 |
| Багдан Паўк | $ 50 |
| Уладзімір і Лідзія Ракуць | $ 100 |
| Алена Сенька | $ 100 |
| Стэнлі Шабовіч | $ 50 |
| Міхаіл Швэдзюк | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*